8 мая 2015 | № 18 (435)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144


**Малдоўскі крызіс**

стар. 13

4 **ДЗВЕРЫ ЕС ДЛЯ БЕЛАРУСІ АДЧЫНЕНЫЯ**

**Спецыяльна для НЧ: міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус і сябра Камітэта нацыянальнай бяспекі і абароны Сейма Літвы Арвідас Анушаўскас**

3 **ЗДАНІ КРЫЗІСУ**



11 **СТУЖКІ — НОВЫЯ СІМВАЛЫ ПЕРАМОГІ**

**Напярэдадні 9 мая краіны СНД ахапіла новая мода — прыдумляць сабе новыя сімвалы Перамогі, непадобныя на георгіеўскія стужкі. Кожная экс-рэспубліка СССР імкліва абзаводзіцца сваім дызайнам**

14–15 **ШЛЯХІ УЛАДЗІМІРА СІЎЧЫКАВА**



**Умоўна жыццё кожнага з нас можна падзяліць на пэўную колькасць этапаў, праз якія мы крочым рознымі дарогамі. Вядомы пісьменнік і выдавец Уладзімір Сіўчыкаў прыгадвае шматлікія дарогі свайго жыцця...**

# Перамога — яна агульная

**Подзвіг нашых ветэранаў бясспрэчны. Але не трэба ствараць ворагаў з былых саюзнікаў**



Сяргей ПУЛЬША

Святкаванне 70-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ў нас набыло найшырэйшы размах. З гэтым ніхто не спрачаецца: трэба шанаваць ветэранаў, якія прайшлі вайну і выжылі, тым больш, што іх з намі застаецца ўсё меней і меней. Трэба не забывацца, чым была вайна, якім коштам далася перамога, і шанаваць загінулых за мір на нашай зямлі. Як салдатаў, так і мірнае насельніцтва.

Але сам працэс святкавання даты перамогі шмат у каго выклікае зараз нейкае ўнутранае адмаўленне. Таму што гэтае святаператвараецца (ці яго свядома ператвараюць) у нейкі палітычна-прапагандысцкі спектакль.

Найперш варта адзначыць недарэчную «геразацыю» перамогі. Прынамсі, некаторыя святочна-агітацыйныя плакаты выклікаюць непаразуменне. У Мінску, напрыклад, можна пабачыць немаўлят у пілотках з цацачнымі салдацікамі і слоганам: "Я буду героем, як і мой прадзед!". Альбо нейкія маляўкі ў ваеннай форме нібыта сядзяць за рулём ваеннай тэхнікі… Мажліва, такім чынам аўтары плакатаў імкнуліся паказаць «пераемнасць пакаленняў»? Дык гэта, па-мойму, не атрымалася.

Дзіця, якое плануе стаць «героем, як прадзед», успрымаецца так, нібыта мы рыхтуем наступнае пакаленне да новых войнаў. Нібыта героем можна стаць, толькі прайшоўшы праз вайну. «Мілітарызацыя» геразму грае з грамадствам злыя жартачкі: адтуль узнікаюць найміты, «зялёныя чалавечкі» і «Гіркіны-Стралковы», якія не нагуляліся ў вайнушку і шукаюць сапраўдных баявых дзеянняў, каб сябе рэалізаваць. Ці трэба нам такое шчасце?

Дый сама «геразацыя подзвігу» вельмі сумнеўная. Вайна — гэта не толькі і не столькі гераізм. Гэта кроў, пот, страх, самаахвярнасць і гібель. А геразім узнікае ўжо з пераадолення ўсяго гэтага. На вялікі жаль, пра гэтыя выпрабаванні і выклікі чалавеку «стваральныя святочнага настрою» не згадваюць. А варта было б, хаця б для таго, каб крыху ацвярозіць тых, хто дагэтуль гераічна гуляе ў вайну.

Нам вельмі не хапае Васіля Быкава з ягонай «акопнай праўдай», за якую яго цкавалі да апошніх дзён.

Яшчэ адзін прыкры момант гэтых святаў — «прыватызацыя» перамогі. Маўляў, толькі «нашы дзяды» змагаліся і перамаглі ў гэтай вайне. Такога адмаўлення заслугаў іншых не было нават у часы халоднай вайны. Тады ЗША і Захад сапраўды былі «верагоднымі праціўнікамі», але ў той жа час ніхто не адмаўляў і не забываўся на знакамітую «сустрэчу на Эльбе». Між іншым, гэта дадавала надзеі і на паразуменне паміж варагуючымі бакамі. Можа быць, памяць пра «сустрэчу на Эльбе» не дазволіла свету скаціцца да ядзернай вайны.

Зараз, з падачы расійскай прапаганды, усе, хто не прыедзе ў Маскву на святочны парад, — ледзьве не галоўныя ворагі. А ЗША і зусім «адмарозкі», якія імкнуцца «перапісаць» гісторыю перамогі, якая была здабытая, у тым ліку і дзякуючы гэтым самым ЗША. Можна, канешне, казаць, што «другі фронт» яны адкрылі запозна, што і без іх бы перамаглі, але кошт такой перамогі быў бы яшчэ даражэйшы.




Узгадайма хаця б «лэнд-ліз». Па ім савецкай арміі ішлі не толькі харчы і тушонка. Знакаміты ас Аляксандр Пакрышкін большую частку вайны лётаў на амерыканскіх «Мустангу» ды «Аэракобры». У эстонскім гістарычным музеі ёсць фота, дзе жыхары балгарскай Сафіі вітаюць савецкіх вызваліцеляў. А гэтыя вызваліцелі едуць па горадзе на брытанскіх танках «Валентайн».

Варта зазначыць, што «лэнд-ліз» пачаўся ўжо праз тры месяцы пасля нападу фашысцкай Германіі на СССР — 1 кастрычніка 1941 года, і гэтыя пастаўкі не спыняліся да канца вайны. Адных толькі амерыканскіх аўтамабіляў (памятаеце знакамітыя «Студэбекеры»?) у СССР за час вайны было пастаўлена амаль паўмільёна штук.

Подзвіг нашых ветэранаў ніхто не аспрэчвае. Але навошта ствараць ворагаў з былых саюзнікаў, зыходзячы з сучаснай прапагандысцка-палітычнай сітуацыі? Па тэлеканале РТР у навінавай праграме «Вести» як мінімум двойчы прайшоў сюжэт пра тое, што недзе ў Польшчы плануюць знесці помнік Ракасоўскаму. Прычым, гэтую «навіну» я бачыў у праграме і 2 мая, і 4 мая, — адзін і той жа сюжэт. То бок, гэта ўжо не навіна, а прапаганда, наўмыснае стварэнне вобразу «ворага» з «няўдзячных палякаў». Нібыта не было ані паўстання ў Варшаўскім гета ў 1943-м, ані Арміі Людовай, ані Арміі Краёвай, ані Варшаўскага паўстання 1944 года. Дый увогуле пра Рух Супраціву ў акупаванай фашыстамі Еўропе ўжо ўсе забыліся.

**Прыкры момант гэтых святаў — прыватызацыя перамогі**

А забывацца на саюзнікаў было б не варта. Мы ўсе памятаем і святкуем 4 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад фашыстаў, бо менавіта ў гэты дзень у 1944 годзе быў вызвалены Мінск. А 25 жніўня 1944 года быў вызвалены Парыж, прычым саюзнікам, якія высадзіліся ў Нармандыі 6 чэрвеня 1944 года, засталося толькі прыняць капітуляцыю рэшткаў фашысцкага гарнізону. Амаль уся Францыя была вызваленая менавіта сіламі Супраціву.

Карацей, прыхільнікам фразы «нашы дзяды ваявалі», за якой апошнім часам хаваюцца вялікадзяржаўныя амбіцыі, варта было б узгадаць — не толькі нашы дзяды ваявалі. Ваявалі яшчэ і дзяды іншых, і іх роля ў агульнай перамозе была не меншай.

Зараз ідзе шмат размоваў пра адказнасць за «фальсіфікацыю гісторыі» і «прыніжэнне ролі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне». Аматарам гэтых пастулатаў варта было б задумацца і пра прыніжэнне ролі саюзнікаў СССР. Тая перамога — не толькі нашая. Яна агульная. І забывацца на гэта таксама не варта.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ШКЛОЎ. Мясцовыя ўлады спужаліся круглага стала

**Чальцы грамадзянскай ініцыятывы «Шклоўскі магістрат» і Магілёўскай абласной арганізацыі РГА «Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны» накіравалі ў Шклоўскі райвыканкам ліст з прапановай сумесна правесці круглы стол аб ролі мясцовага самакіравання і гісторыі Магдэбургскага права на шклоўскай зямлі.**

У адказе з райвыканкама, падпісаным яго старшынёй Аляксандрам Бойкам, паведамілі, што заяўнікамі не выкананы патрабаванні Закона «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» «у частцы належнага афармлення заявы, а менавіта: не пазначана канкрэтнае месца правядзення, крыніца фінансавання дадзенага масавага мерапрыемства, імя па бацьку, дата нараджэння і грамадзянства арганізатара». Сыходзячы з гэтага ім прапанавана падаць заяўку ў адпаведнасці з законам, пасля чаго яна будзе разгледжана, і па ёй будзе вынесена рашэнне.

У выніку круглы стол, прысвечаны магдэбургскім традыцыям і мясцоваму самакіраванню на Магілёўшчыне, у якім прынялі ўдзел не толькі мясцовыя грамадскія актывісты, але і госці з Магілёва, Мінска, і нават з Францыі, у Шклове быў усё ж праведзены ў прыватным памяшканні.

### МАГІЛЁЎ. Скарга ў пракуратуру на міліцыю

**Галоўны рэдактар газеты «Наш Магілёў» Ігар Барысаў паскардзіўся на міліцыю ў абласную пракуратуру.**

Супрацоўнікі міліцыі, даводзіць рэдактар, зацягваюць тэрміны праверкі і не аддаюць вынятыя кампутары. Ён просіць пракуратуру неадкладна вярнуць яму два кампутары, мадэм і нататнік, а таксама прыцягнуць службовых асоб да адказнасці за парушэнне яго правоў, а таксама парушэнне працэсуальных тэрмінаў пры правядзенні праверкі і яе зацягванне.

Апроч таго, галоўны рэдактар у сваёй скарзе пазначае, што падчас агляду яго кватэры былі парушаны яго правы: міліцыя прыйшла са сваімі панятымі (студэнтамі ВНУ, якія праходзілі практыку ў органах МУС) і не дала магчымасці дачакацца незалежных панятых, падчас зачытвання правоў і абавязкаў не быў патлумачаны статус, у якім ён знаходзіўся, было адмоўлена ў допуску прадстаўніка, якім быў юрыст Аляксей Яўгенаў і які знаходзіўся ў гэты момант за дзвярыма, а таксама на рукі не было выдадзена ніякіх копій працэсуальных дакументаў аб аглядзе памяшкання і выманні аргтэхнікі.

Нагадаем, 12 сакавіка супрацоўнікамі міліцыі быў праведзены агляд прыватнай кватэры Ігара Барысава, падчас якога ў рэдактара былі канфіскаваны тры кампутары, мадэм, а таксама нататнік. Прычынай для візіту міліцыі стала заява дырэктара ААТ «Стужка» Сяргея Пятрова. Міліцэйская праверка праходзіць у межах арт. 188 ч. 2 КК РБ «Паклёп». Пятроў палічыў, што на сайце «Наш Магілёў» размешчана публікацыя, якая ўтрымлівае недакладную інфармацыю.

### ГОРКІ. «Адвечны» рамонт амфітэатра ў Горках

**Культурна-забаўляльны цэнтр, пабудаваны ў Горках да «Дажынкаў», як стала вядома, аж да гэтага часу афіцыйна ў эксплуатацыю не здадзены.**

Пра гэта ў эфіры тэлеканала СТБ распавяла намеснік старшыні Горацкага райвыканкама Наталля Карнеева: «Пабудаваны ён быў у кароткія тэрміны. Магчыма, гэта паўплывала на тое, што недзе былі парушаны тэхналогіі. Пакуль аб'ект не здадзены. Ідзе праца. Мы спадзяемся, што ён стане любімым месцам гараджан і ў хуткім часе будуць выпраўлены ўсе недахопы».

У сюжэце, акрамя іншага, паведамляецца, што «амфітэатру, які пабудавалі ўсяго год таму, ужо спатрэбіўся капітальны рамонт. На яго будаўніцтва ўжо затрачана больш за 150 мільярдаў рублёў».

Меней за ўсё з гэтай нагоды турбуюцца будаўнікі: «Усе тэрміны вытрымліваюцца, 27 месяцаў, што адведзены на будаўніцтва, яшчэ не скончыліся». Культурна-забаўляльны цэнтр пакуль толькі дадае турбот мясцоваму кіраўніцтву. У такім выглядзе прынясць амфітэатр райвыканкам справядліва адмаўляецца.

**Паводле regionby.org**

# Ад варот паварот

Марат ГАРАВЫ

**У Мінску на плошчы Незалежнасці людзі ў цывільным не дазволілі актывістам Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры перадаць свой зварот кіраўніку дзяржавы, які ў Доме ўраду выступаў са штогадовым пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.**

Больш за 10 сяброў ініцыятывы з Мінска, Крупак, Бабруйску і вёскі Цёмны Лес, што на Дрыбіншчыне (Магілёўская вобласць), — людзей сталага веку, пацярпелых ад асабліва цяжкіх злачынстваў, нязгодных з пастановамі судоў па сваіх грамадзянскіх справах і крымінальных справах сваіх блізкіх, каля адзінаццатай гадзіны рушылі ад Галоўпаштамту да Дому ўраду.

Пенсіянеры трымалі ў руках 41-ы за апошнія восем гадоў зварот да кіраўніка дзяржавы з меркаваннямі Камітэту па правах чалавека ААН ад 17 красавіка 2014 года, у якіх пацверджана парушэнне Рэспублікай Беларусь правоў яе грамадзян на свабоднае выказванне сваіх думак і на мірныя сходы, Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, скаргі грамадзян у органы суду і пракуратуры, а таксама адпіскі з гэтых дзяржаўных структураў.

У чарговым звароце да Аляксандра Лукашэнкі заяўнікі падкрэслілі, што на іх абгрунтаваныя канкрэтныя пытанні ў органы суду і пракуратуры службовыя асобы гэтых дзяржаўных установаў працягваюць даваць фармальныя адпіскі.

Пенсіянеры звярнуліся да кіраўніка дзяржавы з просьбай аб сустрэчы з імі ці іх прадстаўніцамі — Тамарай Сяргей, Валянцінай Каваленка і Любоўю Санкевіч. На думку заяўнікаў, такая сустрэча неабходная, каб цалкам пазбавіцца ад праблемы адпісак, якія не дазваляюць людзям вырашаць іх канкрэтныя справы.

Аднак на падыходзе да Дому ўраду пенсіянеры былі затрыманыя людзьмі ў цывільным, якія не пусцілі заяўнікаў да Аляксандра Лукашэнкі. Грамадзяне свой 41-ы зварот да кіраўніка дзяржавы накіравалі поштай.

Раней грамадскія актывісты тройчы спрабавалі падчас выступаў Аляксандра Лукашэнкі са штогадовым пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь перадаць свае звароты наконт праблемы адпісак. Аднак усе гэтыя спробы былі марнымі. У 2011 і 2013 гадах мелі месца затрыманні журналістаў незалежных СМІ, якія суправаджалі грамадскіх актывістаў.

# Мікалая Статкевіча перавялі з калоніі ў турму

**Экс-кандыдата ў прэзідэнты, палітвязня Мікалая Статкевіча, які адбываў пакаранне ў Шклоўскай калоніі, зноў перавялі турму. Суд, які праходзіў у Шклоўскай калоніі 4 мая, прызнаў палітвязня вінаватым у парушэнні рэжыму ўтрымання.**




Працэс праходзіў у закрытым рэжыме, а на пасяджэнне пусцілі толькі жонку Мікалая Статкевіча — Марыну Адамовіч. Не трапілі на суд ні праваабаронцы, ні нават назіральнік ад АБСЕ.

Сам палітвязень выглядае і пачуваецца нармальна. Пра гэта «Еўрарадыё» паведаміла пасля суда Марына Адамовіч. «Як і чакалася, — сказала яна, — суддзя Баранцава прыняла рашэнне задаволіць прадстаўленне адміністрацыі Шклоўскай калоніі і перавесці Міколу на турэмны рэжым да канца тэрміну. Выглядае ён нармальна, але ўвесь стаў сівы».

Калі ў шклоўскай калоніі № 17 адбывалася закрытае судовае пасяджэнне па справе аб замене ўтрымання палітвязня з калоніі на турэмны рэжым, у Брэсце ў розных месцах з'явіліся расцяжкі «Свабоду Статкевічу!» і партрэты палітвязня.

Такім чынам неабыякавыя да лёсу Мікалая Статкевіча гараджане падтрымалі экс-кандыдата ў прэзідэнты.

У 2011 годзе Мікалай Статкевіч — адзіны з усіх кандыдатаў — атрымаў найбольшы тэрмін зняволення — 6 гадоў. Палітыка затрымалі ў ноч пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, калі ён быў кандыдатам у прэзідэнты.

Статкевічу некалькі разоў прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі, але ён адмаўляўся. Пакаранне адбываў спачатку ў Шклоўскай калоніі, затым у Магілёўскай турме № 4, а затым зноў у Шклоўскай калоніі, куды быў пераведзены ў студзені 2015 года. Зараз судом вызначана, што астатні тэрмін пакарання палітык правядзе ва ўмовах «крытай» турмы № 4 у Магілёве.

Тэрмін пакарання Статкевіча заканчваецца праз 1 год і 7 месяцаў.

# Супраць вольніцы ў інтэрнэце

**Улады плануюць узмацніць адказнасць за каментары на сайтах.**

Падрыхтаваны праект указу аб адказнасці ўладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў за інфармацыю, якая на іх размяшчаецца. Асобныя інтэрнэт-рэсурсы выклікаюць сур'ёзныя пытанні ў Міністэрства інфармацыі.

Пра гэта паведаміла на прэс-канфэрэнцыі міністр інфармацыі Лілія Ананіч.

Паводле міністра, пакуль не ўсе ўладальнікі інтэрнэт-рэсурсаў прынялі меры, каб прадукцыя, якая размяшчаецца на іхніх сайтах, у поўнай меры адпавядала нацыянальнаму заканадаўству. Інфармацыя павінна быць дакладнай, спрыяць развіццю грамадства і не наносіць шкоды нацыянальным інтарэсам, што абумоўлена канцэпцыяй нацыянальнай бяспекі. Асобныя інтэрнэт-рэсурсы выклікаюць пытанні з боку Міністэрства інфармацыі, адзначыла Лілія Ананіч.

Закон аб СМІ прадугледжвае адказнасць уладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў. Вядзецца праца па ўстанаўленні ўладальнікаў тых рэсурсаў, якія працуюць па-за зонай by. Усе, хто працуе ў нацыянальнай прасторы, роўныя перад законам. Таму кантроль за выкананнем заканадаўства будзе распаўсюджвацца на ўсе даступныя інтэрнэт-рэсурсы на тэрыторыі краіны, паведамляе БелТА.

Паводле закону аб СМІ, уладальнікі інтэрнэт-рэсурсаў нясуць адказнасць і за каментары на рэсурсе. Пры гэтым, калі грамадзянін палічыць, што яго абразіў канкрэтны аўтар каментара, і гэта будзе ўстаноўлена, то ён мае права звяртацца па абарону сваіх законных правоў.

Яна адзначыла, што ўжо закрыты доступ да прадукцыі 18 сайтаў, якія выкарыстоўваліся для прапаганды наркотыкаў, ужывалі ненарматыўную лексіку. І гэтая праца будзе працягнутая, цытуе Ананіч БелаПАН.

**Паводле «Радыё Свабода»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Здані крызісу

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Аляксандр Рыгоравіч яшчэ ў пасланні народу і парламенту адзначыў, што варта зноў замарозіць цэны. Але ў пасланні цьмяна прагучала, што разам з цэнамі трэба замарозіць і заробкі. Зараз кіраўнік сінявокай выказаўся пра гэта больш канкрэтна.**




Прымаючы на тыдні міністра працы і сацыяльнай абароны Марыяну Шчоткіну, Лукашэнка ў чарговы раз выказаўся наконт коштаў і заробкаў. Па ягоных словах, «недапушчальна», калі «назіраецца рост коштаў па кантраляваных пазіцыях, і асабліва ў ЖКГ, яшчэ дзесьці, там, дзе дзяржава падвышае кошты». І тут жа прапанаваў: «І там, дзе мы можам сёння прыпыніць рост коштаў, гэты рост коштаў трэба прыпыніць. Трэба даць зразумець усім: бізнесменам, прадпрымальнікам, кіраўнікам дзяржпрадпрыемстваў і ўсім астатнім, што цэны пажадана цяпер не тузаць».

Як высветлілася, «не тузаць цэны» мы павінны не ад добрага жыцця. Уважліва паглядзеўшы на зайздросную для іншых «сацыяльна-рынкавую мадэль эканомікі», высвятляецца, што гэтая мадэль ва ўсім добрая, але ў яе ёсць толькі адна хіба. Гэтая хіба ў тым, што яна не працуе. Падаецца, знешнія і ўнутраныя рэзервы ў яе скончыліся, і гэта з прыкрасцю адзначыў беларускі правадыр.

«Таму што мы зарплату сёння не можам падняць... Гэта перш за ўсё павінны разумець дзяржслужачыя. Ёсць спробы выбарча камусьці каэфіцыент павысіць, камусьці даплату, зарплату, уладкаваць на працу, каб на пенсію сысці з добрай працы. Гэта недапушчальна! Я гэта буду лічыць правакацыяй супраць прэзідэнта, супраць дзеючай улады», — заявіў Лукашэнка, кажучы пра традыцыйнае падвышэнне заробкаў перад прэзідэнцкімі выбарамі.

Так што гэтым разам мы застанемся без звыклых падарункаў на пераабранне Лукашэнкі. І Аляксандр Рыгоравіч збіраецца зрабіць падарунак нетрадыцыйны. Па ягоных словах, «чалавеку не патрэбны рост заробкаў, калі не растуць цэны».

А вось гэта ўжо — вельмі спрэчнае сцвярджэнне. Як вядома, грошай можа быць мала, але іх ніколі не бывае зашмат. Да таго ж, натура ў нашага «народца» такая, што ён хоча ўсяго і адразу. І таго, каб заробкі падвышаліся, і таго, каб цэны не раслі. А дзе ўзяць на гэта фінансы? Няма ў нас такога залатога запасу.

Дарэчы, пра залаты запас. Падаецца, мы праскочылі крызісны пачатак года, абяцаны ад Расіі крэдыт у $110 мільёнаў да нас таксама дайшоў. Але нам трэба яшчэ. І з гэтым «яшчэ» — праблемы. Так, кіраўнік Нацбанка Павел Калаур зазначыў, што «перамоўны працэс Беларусі з Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС аб новай краінавай праграме знаходзіцца ў пачатковай стадыі».

У студзені Нацбанк, зыходзячы з бягучай сітуацыі на той момант, сцвярджаў, што Беларусь не выцягне ў 2015 годзе абслугоўванне знешняга доўгу, што прадугледжвае выплату $4 мільярдаў, без дадатковага прыцягнення мінімум $3 мільярдаў. Але прайшлі чатыры месяцы, і зараз, паводле Калаура, Беларусі неабходная значна меншая сума. Якая сума, Калаур не прызнаўся. «Канчатковае рашэнне (па суме крэдыту) будзе прымацца зыходзячы з магчымасцяў фонду і патрэбаў Беларусі», — сказаў Калаур.

Шкада толькі, што ў гэтай структуры — АКФ ЕўрАзЭС, — рэпутацыя краіны, як кажуць, «падмочаная». Мы ў 2011 годзе бралі ў іх крэдыт у абмен на абяцанкі рэформы эканомікі, і нічога з гэтых абяцанняў не выканалі. Таму нам не далі апошні транш з таго крэдыту ў $440 мільёнаў. З чаго мы маем надзею, што АКФ ЕўрАзЭС нас пракрэдытуе яшчэ раз — невядома.

Тым больш, што рэформаў у нас не прадбачыцца, ад «сацыяльна арыентаванай мадэлі» мы адмаўляцца не збіраемся. Доказ таму прагучаў на той жа сустрэчы са Шчоткінай. Лукашэнка запатрабаваў захаваць калектывы на буйных прадпрыемствах Мінпрама, якія зазналі сёння праблемы.

«Гэтая праблема больш за ўсё тычыцца міністра прамысловасці. Але хацеў бы і вас папярэдзіць, каб вы ва ўрадзе за гэтым пільна сачылі. У нас на некаторых даволі буйных прадпрыемствах па пэўных прычынах, не буду іх называць, мы ўжо не аднойчы пра гэта казалі, склалася вельмі напружаная сітуацыя, абставіны. Мы ні ў якім выпадку не павінны дапусціць таго, каб іх страціць. Гэта выключана», — запатрабаваў Лукашэнка.

«Самая галоўная мера, і вы павінны за гэтым сачыць, — захаваць працоўныя калектывы. Крызісы калі-небудзь скончацца, але калі выходзіш з крызісу і на тваю прадукцыю ёсць попыт, а няма працоўнага люду, няма працоўнага класа, які выпрацоўвае гэтую прадукцыю, тады бяда. Таму любымі спосабамі і сродкамі трэба захаваць працоўныя калектывы, зрабіць усё для таго, каб людзі працавалі. І не на склад», — агучыў Лукашэнка чарговую невыканальную задачу.

Як можна захаваць працоўны калектыў? Толькі выплочваючы яму заробак. А які можа быць заробак, калі, па словах таго ж Калаура, валютныя запазычанасці найбуйнейшых беларускіх прадпрыемстваў складаюць каля $10 мільярдаў? Гэта ж поўны кошт будаўніцтва Астравецкай АЭС з двума рэактарнымі блокамі! Альбо сума, у два разы перавышаючая золатавалютныя рэзервы краіны!

Па словах Калаўра, гэтая запазычанасць тычыцца 106 прадпрыемстваў Беларусі. «Мы вырашылі паглядзець, ці ў стане гэтыя прадпрыемствы выконваць свае абавязацельствы. Тым больш што прыкладна палова абавязацельстваў (з $10 мільярдаў) павінна быць пагашана ў 2015 годзе», — адзначыў Калаур.

То бок, насамрэч, грошы нам патрэбныя, і вельмі патрэбныя. Калі «тэрміновыя» пазыкі прадпрыемстваў, якія, як ужо было сказана, супастаўляльныя з ЗВР Беларусі, не будуць сплочаныя, гэта нанясе накаўтуючы ўдар па банкаўскай сістэме. Банкі абваляцца ўслед за прадпрыемствамі, людзі зноў пабягуць здымаць уклады, пераводзіць іх у валюту і... Сцэнар такога крызісу нам ужо тройчы знаёмы. Так што не паспеем мы выкараскацца з валютнага крызісу 2014–2015, як узнікне крызіс «канца 2015-га».

Калі ўсё будзе па-ранейшаму, гэты крызіс можа ўзнікнуць напрыканцы фінансавага года, калі прадпрыемствы пачнуць пагашаць пазыкі і выплочваць падаткі, а рабіць гэта будзе няма чым. Але галоўнае, пэўна, што гэта адбудзецца ўжо пасля прэзідэнцкіх выбараў у лістападзе гэтага года.

Пра рост заробкаў у гэтай сітуацыі сапраўды казаць не выпадае — дай Божа захаваць тое, што ёсць. А ўраду трэба будзе моцна пачухаць патыліцу, каб не дапусціць развіцця крызіснага сцэнару. Ці прыдумаюць яны нешта новае?

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Андрэй Дзмітрыеў

**Выконваючы абавязкі кіраўніка кампаніі «Гавары праўду!» паабяцаў, што апазіцыя хутка пазбавіцца іміджу лузераў.**

Прынамсі, такая задача пастаўлена перад ініцыятывай «Народны рэферэндум» у 2015–2016 гадах.

«Вельмі важнай задачай у ходзе гэтых выбараў будзе змена іміджу апазіцыі. Трэба выйсці з гэтай дэпрэсіі і смутку, з гэтых пастаянных жалобных спеваў, і паказаць, што мы — адэкватныя і цікавыя, мы — тыя, да каго хочацца далучацца, з кім хочацца быць побач, мы — пазітыўныя, і ў нас ёсць бачанне будучыні, у якой кожнаму ёсць месца. Гэта тая задача, якую мы хочам вырашыць, каб людзі пасля выбараў сказалі, што апазіцыя цяпер іншая, што гэта цікавыя людзі, з якімі хочацца мець зносіны, што яны не зомбі», — заявіў палітык.

І дадаў: «Мы хочам зрабіць іншую кампанію, не класічную апазіцыйную кампанію, дзе ўсё адразу прапісана. Гэта не значыць, што мы не будзем казаць пра палітвязняў — безумоўна, будзем. Але казаць можна па-рознаму. Трэба паказаць, што ў апазіцыі ёсць нармальныя людзі».

Пазбавіцца іміджу лузераў можна толькі выйграўшы выбары. Ці наважыцца «Народны рэферэндум» змагацца сур'ёзна?

## Лідзія Ярмошына



**Кіраўнік ЦВК у эфіры БТ намякнула на тое, што пяты прэзідэнцкі тэрмін стане апошнім для Аляксандра Лукашэнкі.**

Яна прапанавала асобам з прэзідэнцкімі амбіцыямі неадкладна пачынаць іміджавыя і не толькі трэніроўкі для мас-старту ў прэзідэнцкай кампаніі 2020 года.

Паводле яе слоў, пачаўшы падрыхтоўку сёння, любы грамадзянін за пяць гадоў можа дамагчыся такой пазнавальнасці ў краіне, якая дазволіць яму ўдзельнічаць і перамагчы ў прэзідэнцкай кампаніі. «Калі ты збіраешся пайсці на выбары, то ствары за пяць гадоў да выбараў блог у інтэрнэце, займей фрэндаў, вядзі шырокую перапіску, абмяркоўвай усё — ад тэатральнай пастаноўкі да ЧС па хакеі. Будзь усюды. І ты паступова станеш вядомым, дарэчы, абсалютна бясплатна практычна. І на дзяржаву няма чаго наракаць. Галоўнае — атрымаць той аўтарытэт, які неабходны кандыдату, каб ён быў на слыху», — сказала кіраўніца ЦВК.

Ярмошына даўно ўзначальвае ЦВК па пераабранні Лукашэнкі і, пэўна, дасведчаная аб планах свайго патрона. Параду аб падрыхтоўцы да выбараў яна дае ўпершыню, што дазваляе рабіць розныя здагадкі.

## Юзары і Маймуна



**Беларускія ўдзельнікі «Еўрабачання» Юзары і Маймуна рыхтуюцца да конкурсу ў рэжыме жорсткай эканоміі. Як піша «Камсамольская праўда ў Беларусі», на падрыхтоўку беларускіх выканаўцаў да конкурсу выдаткавалі ўсяго $20 тысяч.**

Акрамя кіпрыёцкага спевака і кампазітара Алекса Панайі, у камандзе толькі беларусы. Бэк-вакалістаў «скралі» ў спевака Тэа, рэжысурай нумара зоймецца дырэктар подыум-школы вядомага мадэльнага агенцтва Ніна Драко, якая звычайна выступае ў ролі рэжысёра-пастаноўшчыка модных паказаў, над касцюмамі працуюць беларускія дызайнеры Ганна Герт і Вольга Бухал.

Праезд-пражыванне-харчаванне беларускай дэлегацыі на «Еўрабачанні» забяспечвае Белтэлерадыёкампанія. Астатняе — за кошт артыстаў. Юзары і Маймуна вырашылі не везці за мяжу ні спіртное, ні прысмакі і не марнаваць грошы на выпуск кампакт-дыскаў. У якасці прома-прадукцыі яны выпусцілі абмежаваную колькасць флэшак з кліпам на сваю песню «Time» і вырашылі выдаткаваць пару тысяч долараў на 1000 паштовак, 300 натацінкаў з буклетамі, 100 маек і 200 ультрамодных электронных гадзіннікаў з зашпількай-флэшкай.

Кліп абышоўся беларускім удзельнікам у 15 тысяч еўра, з іх каля 2 тысяч сышло толькі на стварэнне гіганцкіх пясочных гадзіннікаў. На гэтыя выдаткі Юзары і Маймуна не шкадуюць, бо кліп ужо паглядзелі 800 тысяч чалавек на YouTube. Але і смеціць грашыма яны не збіраюцца — кожная капейка ў дуэта на рахунку, а гэтыя самы рахунак вядзе муж і прадзюсар Маймуны Андрэй Мурашка.

# Дзверы ЕС для Беларусі адчыненыя

Аксана КОЛБ

**Агрэсія Расіі супраць Украіны прымусіла іншых суседзяў задумацца наконт сваёй будучыні. Наколькі рэальная расійская пагроза для Літвы? Якое месца ў знешняй палітыцы гэтай краіны і ЕС будзе займаць Беларусь? На гэтыя і іншыя пытанні спецыяльна для НЧ адказалі міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус і сябра Камітэта нацыянальнай бяспекі і абароны Сейма Літвы Арвідас Анушаўскас.**



**Арвідас Анушаўскас**

Сябра Камітэта нацыянальнай бяспекі і абароны (КНБА). Літоўскі гісторык, журналіст, пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч. Даследчык генацыду, тэрору і дзейнасці спецслужбаў. Аўтар 26 кніг. Аўтар сцэнару серыі дакументальных фільмаў пра сакрэтныя архівы XX стагоддзя.



**Лінас Антанас Лінкявічус**

Міністр замежных спраў Літоўскай рэспублікі са снежня 2012 года да сённяшняга дня. Экс-міністр абароны Літвы, кіраўнік прадстаўніцтва Літвы ў NATO (1997–2000), пастаянны прадстаўнік Літвы ў NATO (2005–2011). Надзвычайны і паўнамоцны пасол Літвы ў Беларусі (ліпень-снежань 2012).

## Было б вар'яцтвам выпрабоўваць моц NATO

Вайна ва Украіне, выкраданне эстонскага супрацоўніка спецслужбаў, пастаянныя правакацыі ў паветранай прасторы краін Балтыі — усе гэтыя дзеянні Расіі непакояць яе суседзяў. Але ці рашыцца Пуцін на адкрытую агрэсію супраць краіны — чальца NATO?

«Вар'яцтва, канешне, не мае межаў, але самым вялікім вар'яцтвам было б зараз выпрабоўваць моц NATO, — лічыць міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус. — Усё ж такі Літва — сябра ЕС і NATO, у нас іншыя гарантыі бяспекі, мы можам пачувацца больш абароненымі, чым, скажам, Грузія ці Малдова. Але нашы грамадзяне не адчуваюць сябе спакойна, калі бачаць, што адбываецца. А адбываецца тое, што не ўваходзіць ні ў якія рамкі міжнароднага права. Тое, што пасярод Еўропы ў XXI стагоддзі вядзецца агрэсія супраць дзяржавы, якая з'яўляецца сябрам Савета бяспекі. А гэта стварае вельмі небяспечны прэцэдэнт. Прэцэдэнт, на які мы (ЕС і NATO) павінны адэкватна рэагаваць. Мы не зрабілі гэта пасля 2008 года ў Грузіі. У выніку зараз бачым акупацыю часткі Грузіі... Магчыма, ёсць разлікі, што і зараз мы адступім ці паслабім ціск. Таму зараз шмат што залежыць ад нашай рэакцыі, ад нашага адзінства. Я думаю, будзе вялікай памылкай зменшыць ціск на Расію. Але гэта не выключана».

«Пагроза расійскай агрэсіі сапраўды існуе, але наколькі яна можа рэалізавацца, гэта ўжо іншае пытанне. І хаця наўпроставай агрэсіі ў бліжэйшы час мы не чакаем, ускосная пагроза існуе, — лічыць Арвідас Анашаўскас, прадстаўнік Камітэта нацыянальнай бяспекі і абароны (КНБА). — Але для гэтага мы і працуем, каб нейтралізоўваць падобныя пагрозы. За апошнія два месяцы ў Літве было прынята некалькі законаў, якія значна ўмацавалі нашу бяспеку. Напрыклад, цяпер ёсць закон, які рэгламентуе дзеянні нашых вайскоўцаў і ўзаемадзеянне іншых службаў на выпадак існавання ўскоснай пагрозы і з'яўлення так званых «зялёных чалавечкаў». Акрамя таго, мы вярнулі тэрміновую службу ў войску. Цяпер хлопцы ва ўзросце 19–26 будуць праходзіць 9-месячную вайсковую службу. Прынята і распрацоўваецца яшчэ шэраг мер, якія дазволяць умацаваць сістэму бяспекі Літвы. Аднак заўважу, што той ваенны патэнцыял, які існуе ў Калінінградскай вобласці, нясе пагрозу не толькі Літве».

## Рускамоўныя не будуць разменнай манетай

Тэма дыскрымінацыі рускамоўнага насельніцтва не сыходзіць з павесткі дня расійскіх СМІ ўжо не першае дзесяцігоддзе, але пасля вайны ва Украіне яна набыла іншае гучанне. Ці магчыма выкарыстанне лозунга абароны рускамоўных для эскалацыі сітуацыі ў Літве?

«Творчы падыход не мае межаў. Аказваецца, можна абараняць рускамоўных нават у Крыме, дзе іх большасць, — сумна жартуе Лінас Лінкявічус. — Але ў Літве, думаю, няма ўмоў для гэтага, таму што руская нацыянальная меншасць у Літве добра інтэграваная. Усе рускія — грамадзяне Літвы. Думаю, імі вельмі цяжка будзе маніпуляваць. Хаця, канешне, калі пастарацца, магчыма. Асабліва, калі ўлічыць прапаганду, што вядзецца з расійскіх СМІ, і нават непрыхаваную хлусню. Таму нам таксама трэба працаваць. І найперш ствараць альтэрнатыўныя крыніцы інфармацыі».

З міністрам згодны і прадстаўнік КНБА. «Рускамоўнага насельніцтва ў Літве нямала, але яго інтэграцыя ў грамадства даволі высокая, нават у параўнанні з польскамоўным. Асабліва гэта тычыцца маладога пакалення. Канешне, у Літве ёсць людзі, якія з настальгіяй глядзяць на савецкае мінулае, але яны ёсць і сярод рускіх, і сярод літоўцаў. Лічу, што рускамоўнае насельніцтва як разменную манету ва ўмовах Літвы выкарыстаць даволі цяжка. Хаця прадстаўнікі і сакрэтных, і дыпламатычных службаў Расіі стала над гэтым працуюць. На іх поўным утрыманні, напрыклад, знаходзіцца частка рускамоўных актывістаў. Вядзецца праца па прасоўванні іх у органы самакіравання, іншыя палітычныя інстытуты. Але будучая стабільнасць ці нестабільнасць сітуацыі ў Літве ад іх не залежыць. Але мы таксама вядзем працу. І, напрыклад, віртуальную спробу ўтварэння так званай Віленскай народнай рэспублікі разглядаем як дэзынтэграцыю дзяржавы і распальванне міжнацыянальнай варожасці, таму пачалі расследаванне», — адзначыў Арвідас Анушаўскас.

Па меркаванні міністра Лінкявічуса, супрацьстаяць пагрозам з боку Расіі, і не толькі ваенным, але і кібернетычным, энергетычным, інфармацыйным, можна толькі пры наяўнасці паслядоўнай, прынцыповай і адзінай пазіцыі краін Еўрасаюза адносна выканання норм міжнароднага права. «У нас няма мэты эскалацыі напружанасці, — падкрэсліў спадар Лінкявічус. — Расія — наш сусед, і мы хочам нармальна з ёй супрацоўнічаць, развіваць культурныя сувязі, гандаль, што выгодна абодвум бакам. І мы заўсёды будзем першымі, хто выступае за нармальныя адносіны з Расіяй. Але гэтыя адносіны павінны будавацца на прынцыпах міжнароднага права».

## Пытанне палітвязняў не здымаецца

Як вядома, 29 красавіка Беларусь атрымала афіцыйнае «раўнапраўнае» запрашэнне на саміт Усходняга партнёрства, што адбудзецца ў Рызе 21–21 мая. А на наступны дзень, 30 красавіка, на рахунак Міністэрства фінансаў Беларусі прыйшло 110 мільёнаў долараў доўгачаканага расійскага крэдыту «ў мэтах умацавання сяброўскіх адносін паміж дзвюма дзяржавамі». Якіх яшчэ «сяброўскіх» крокаў чакаць Беларусі? Хто паедзе на Рыжскі саміт? І наколькі Беларусь наблізіцца да Еўропы? Ад адказаў на гэтыя пытанні шмат у чым залежыць бліжэйшая будучыня нашай краіны і рэгіёна ў цэлым.

«У Рызе плануецца падпісанне дамовы пра спрашчэнне візавага рэжыму і рэадмісію, — адзначае Арвідас Анушаўскас. — Гэта дамова прапанавана Беларусі яшчэ ў 2011 годзе, але дасюль была без увагі. Так атрымліваецца, што стасункі з ЕС актывізуюцца напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Так было перад выбарамі 2010 года, так ёсць зараз. Але пасля выбараў сітуацыя звычайна замарожваецца. Таму нам бы не хацелася, каб гэта паўтарылася. Еўрапейскі саюз, калі Беларусь пойдзе насустрач, не збіраецца зачыняць дзверы. Пакуль мы глядзім на гэтыя геапалітычныя працэсы пазітыўна. Беларусь заняла даволі прагматычную пазіцыю ў адносінах да сітуацыі ва Украіне. ЕС, асабліва пры старшынстве Латвіі, заняў прагматычную пазіцыю ў адносінах да Беларусі. Але, калі глядзець на перспектыву развіцця Беларусі ў напрамку дэмакратыі, то тут спрашчэнне візавага рэжыму не адыгрывае важнай ролі. Самая важная роля належыць самім грамадзянам Беларусі, іх жаданню бачыць сваю краіну дэмакратычнай».

ЕС вядзе розныя формы дыялогу з краінамі Усходняй Еўропы. Не апошняе месца займае і праект Усходняга партнёрства. «У праекце Усходняга партнёрства — шэсць краін з рознымі амбіцыямі і падыходамі, і ў гэтым яго хараство. Пасля саміту ў Рызе мы выпрацуем дыферэнцыйны падыход да кожнай краіны, каб было магчыма выкарыстоўваць розныя формы супрацоўніцтва, у залежнасці ад матываванасці і глыбіні адносін, якіх бы хацелі гэтыя краіны. Некаторыя жадаюць уступіць у ЕС, некаторыя — толькі супрацоўнічаць. Мы павінны да кожнай краіны падабраць ключ, каб усе бакі засталіся задаволеныя і быў вынік», — кажа Лінас Лінкявічус.

«Мы заўсёды лічылі, што з Беларуссю трэба весці дыялог. І толькі з дапамогай дыялога можна ўздзейнічаць на партнёра. Але ўсё гэта не здымае традыцыйных пытанняў, у прыватнасці, пытання палітычных зняволеных, — падкрэслівае міністр замежных спраў Літвы. — Мы не заплюшчваем вочы на тыя моманты, якія заўсёды крытыкуем, але ў той жа час гэта не павінна перашкаджаць дыялогу. Такая склалася сітуацыя. Мы вельмі цэнім пазіцыю Беларусі адносна непрызнання акупацыі Паўднёвай Асеціі і Абхазіі, адносна непрызнання анексіі Крыма, адносна расійскага эмбарга — гэта тыя моманты, на якія мы павінны звярнуць увагу».

## Асноўны прыярытэт — незалежнасць

Ці магчымы ў нас украінскі сцэнар, калі раптам Беларусь зробіць сваім прыярытэтам еўрапейскі напрамак? Гэта пытанне, я думаю, задавалі сабе не толькі ўдумлівыя чытачы НЧ, але і беларускія ўлады. А ці магчыма ўвогуле змяненне геапалітычных прыярытэтаў?

Адназначных адказаў на гэтыя пытанні няма. Арвідас Анушаўскас не выключае адмоўнай рэакцыі Расіі на збліжэнне Беларусі з ЕС: «Беларусь — не Украіна, тут у Расіі зусім іншыя пазіцыі, і даволі актыўныя, — лічыць прадстаўнік Камітэта па нацыянальнай бяспецы і абароне. — Таму асноўная лінія, якой мы будзем прытрымлівацца, — захаванне беларускага суверэнітэту. Гэта і для Беларусі — асноўны прыярытэт. Бо калі пуцінскі рэжым уключыць Беларусь у свой склад на любых умовах, сітуацыя на мяжы з ЕС істотна зменіцца. І мы будзем вымушаны ўмацоўваць свае вайсковыя пазіцыі».

«Мы павінны дабівацца таго, каб вырашала лёс Беларусі не Расія ці хтосьці іншы па ўласных правілах, а каб усё адбывалася на аснове міжнароднага права. Пакуль што аказалася, што недастаткова дзяржаве проста выбраць сваю будучыню і верыць, што гэта права будуць усе паважаць. Свой выбар, аказваецца, яшчэ трэба абараніць. Пасля сітуацыі ва Украіне стала ясна, што мы павінны дапамагчы такім краінам абараніць свой выбар. Мы павінны прымусіць Расію дзейнічаць згодна з прынцыпамі міжнароднага права. Калі мы гэта зможам, украінскага сцэнару ў Беларусі не будзе. А калі мы праявім слабасць, то перадумовы для ўзнікнення такіх сітуацый узнікнуць не толькі ў Беларусі. Ёсць яшчэ, напрыклад, Малдова. Таму, паўтаруся, ЕС павінен праявіць адзінства і цвёрдасць».

# Пакаянне дзеля замірэння

Генадзь КЕСНЕР

**Упершыню перад жыхарамі за злачынствы нацыстаў у Беларусі падчас Другой сусветнай вайны прабачэння ад імя германскага ўраду папрасіў высокапастаўлены чыноўнік гэтай краіны. Згадаць ахвяры страшэннай трагедыі ХХ стагоддзя ў Мінск прыехалі больш за 200 жыхароў Германіі, Чэхіі, Аўстрыі, Ізраіля, Англіі. Былі тут і сваякі тых, хто палёг у самым жахлівым на тэрыторыі былога СССР канцлагеры «Малы Трасцянец».**

1–5 мая ў Беларусі ладзіліся мемарыяльныя мерапрыемствы «Помнім дзеля агульнаеўрапейскай будучыні», прымеркаваныя да 70-годдзя Перамогі над гітлераўскім нацызмам. Арганізатарамі выступілі Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр імя Яханэса Раў і Дортмундскі міжнародны адукацыйны цэнтр разам з Нямецка-расійскім Форумам, Евангелічнай царквою Нямеччыны, Фондам «Заходне-Усходнія сустрэчы», Саюзам «Дамы замест Чарнобыля», Міжнародным аб'яднаннем народных універсітэтаў ды іншымі ўдзельнікамі з Нямеччыны ў супрацоўніцтве з партнёрамі з Беларусі, Ізраіля, Чэхіі ды Аўстрыі.

Замежныя госці наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь», з'ездзілі ў Бабруйск, дзе пабачылі помнік ахвярам Халакосту, а таксама мемарыял загінулых ваеннапалонных і нямецкія зборныя могілкі ў Шчаткаве. Прайшліся па гістарычных месцах сталіцы Беларусі, сустрэліся са сведкамі трагічных падзеяў у Гістарычнай майстэрні, убачылі сацыяльны цэнтр у прыходзе Іконы Маці Божай Чарнобыльскай «Усіх тужлівых радасць» ды іншае.

4 мая ў Мінскім МАЦ імя Яханэса Раў прайшла канферэнцыя «Трасцянец у агульнаеўрапейскай памяці». Мадэратарам мерапрыемства выступіў былы прэм'ер-міністр федэральнай зямлі Брандэнбург Мацiяс Плацэк.

Але вельмі важным стаў выступ былога Дзяржаўнага міністра ўрада ФРГ, цяперашняга ўпаўнаважанага гэтага



**Ад імя федэральнага ўраду Германіі і асабіста ад сябе я прашу прабачэння за злачынствы, здзейсненыя немцамі ў Беларусі**

ведамства ў пытаннях супрацоўніцтва грамадзянскіх ініцыятываў Герната Эрлера, які першым з германскіх высокіх чыноўнікаў афіцыйна папрасіў прабачэння ў народа Беларусі за злачынствы, здзейсненыя нямецкімі фашыстамі падчас апошняй вайны.

«Два з паловай мільёны чалавек страціла Беларусь. Больш за чвэрць насельніцтва сталіся ахвярамі акупацыйнага рэжыму. Наўрад ці дзе-небудзь яшчэ ў Еўропе знойдзецца месца, дзе знішчэнне яўрэйскага насельніцтва праводзілася б з большай сістэматычнасцю... Габрэі знішчаліся па ўсёй Беларусі, у тым ліку і ў Віцебску — найвядомейшым цэнтры яўрэйскае культуры... Трасцянец з'яўляецца сімвалам нямецкіх злачынстваў у Беларусі... Злачынствы, здзейсненыя немцамі і ад імя Нямеччыны, вельмі цяжка перадаць словамі. Я сёння адчуваю пакаянне... Гэта злачынствы, якія мы не можам забыць, не маем права забыць і не забудзем. Гэтыя злачынствы і сёння кідаюць цень на ўзаемадачыненні паміж многімі народамі ў Еўропе... Мая краіна ўсведамляе сваю гістарычную адказнасць за адбытае. Ад імя федэральнага ўраду Германіі і асабіста ад сябе я прашу прабачэння за злачынствы, здзейсненыя немцамі ў Беларусі. І я схіляю галаву перад ахвярамі», — сказаў Гернат Эрлер.

Пры гэтым нямецкі чыноўнік адзначыў, што не чакае ніякай рэакцыі ў адказ ад афіцыйнага Мінска. Галоўнае, каб і гэтыя словы, і іншыя дзеянні зблізілі нашы краіны. Сумесная рэалізацыя мемарыяльнага праекта «Трасцянец» будзе лепшым сведчаннем шчырых намераў з боку тых, хто ўдзельнічае ў яго рэалізацыі. А гэта, найперш, Нямеччына і Беларусь.

# Лёсы ахвяраў Трасцянца

Марат ГАРАВЫ

**4 мая ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханэса Раў лёсы ахвяраў канцлагера «Трасцянец» узгадалі іх родныя з Нямеччыны, Беларусі і Чэхіі.**

Гэтыя ўспаміны сталі часткай памятных мерапрыемстваў у гонар 70-годдзя Перамогі над фашызмам у Другой сусветнай вайне. Думкі людзей, чые родныя загінулі ў Трасцянцы, вельмі актуальныя сёння, калі свету пагражае новая сусветная вайна. Паспрабуем асэнсаваць пачутае...

**Габрыэль Хайм з Нямеччыны:**



— Я — нашчадак габрэйскай сям'і з Берліну — змог прыехаць да вас, бо маёй маці ўдалося эмігрыраваць і выратавацца ад пераследу і смерці. Аднак мая бабуля Мары Вінтэр, 1879 года народзінаў, не змагла пакінуць Нямеччыну і ніколі не думала, што стане выгнанніцай у сваёй Радзіме...

Урэшце, як сведчаць ваенныя дакументы, насуперак волі камандавання СС і з ініцыятывы кіраўніцтва гестапа, якое жадала ачысціць астрогі Берліна ад габрэяў, мая бабуля, закратаваная разам з іншымі сябрамі Агульнаімперскага аб'яднання габрэяў Нямеччыны, 24 чэрвеня 1942 года апынулася ў 16-м эшалоне, які вёз вязняў на ўсход. Праз два дні разам з габрэямі, дэпартаванымі з Кёнігсберга, Мары Вінтэр у вагоне для жывёлы прыбыла ў Мінск. Выгрузка зняволеных і іх багажу з карнага транспарту адбывалася ў атачэнні сябраў СД, які адбіралі каштоўнасці ў габрэяў і сартавалі іх для адпраўкі ў трасцянецкае ўрочышча Благаўшчына. Частку вязняў везлі ў грузавіках да толькі што выкапаных ямаў, дзе паліцаі і эсэсаўцы расстрэльвалі няшчасных. Частка зняволеных — састарэлыя, хворыя і малыя дзеці — адвозіліся ў Благаўшчыну на сямі газвагенах нямецкай вытворчасці, празваных мясцовымі жыхарамі душагубкамі. За той час, што газваген праходзіў 15 кіламетраў ад цягніка да Трасцянца, выхлапныя газы забівалі ўсіх пасажыраў душагубкі...

Хутчэй за ўсё, Мары Вінтэр, саслабелая пасля двухмесячнага зняволення ў астрозе, была вымушаная сесці ў адзін з гэтых газвагенаў. Напрыканцы свайго зямнога шляху яе чакала хлорная вапна, якой нацысты залівалі забітых...

**Галіна Пшанічная з Беларусі:**



— Падчас акупацыі нашая сям'я жыла ў Негарэлым. Бацька працаваў на чыгунцы і праз маці — былую настаўніцу — да 1944 года перадаваў звесткі пра рух цягнікоў савецкім партызанам. Перад самым вызваленнем Беларусі ад фашыстаў здраднік выдаў бацьку, і яго закратавалі ў мінскім астрозе на вуліцы імя Уладзіміра Валадарскага. У астрозе тата сустрэў майго дзядулю з родзічамі, якія пазней загінулі. Паколькі нават пад катаваннямі бацька адмовіўся даваць звесткі пра партызанаў, а Чырвоная Армія набліжалася, тату вывезлі ў Трасцянец. Бацька апынуўся сярод тых, каго чакаў расстрэл. Вязняў падводзілі да хлява, выводзілі са строю па пяць чалавек, заводзілі ў хлеў і забівалі стрэлам у спіну. Калі стрэлілі ў тату, ён страціў прытомнасць, бо куля прайшла праз шыю і выйшла ў вока... Апрытомнеў ён толькі тады, калі адчуў на сабе кроў, што збягала з забітых, якія ляжалі зверху.

Разумеючы па-нямецку, бацька з размоваў ахоўнікаў уцяміў, што калі сцямнее, хлеў з забітымі падпаляць. Далей чакаць было нельга. Таму тата выкараскаўся з-пад забітых і папоўз да брамы, а далей — у жыта. Дапоўз да крайняй хаты, дзе гаспадар адразу ўсё зразумеў, перабінтаваў галаву, папаіў малаком і папярэдзіў, што больш у яго доме нельга заставацца, бо ўвесь час шастаюць паліцаі і немцы. Бацька пайшоў у вёску, дзе жыў яго знаёмы — партызанскі сувязны, аднак па дарозе быў перахоплены двума немцамі — афіцэрам і салдатам. Апошні хацеў садраць бінт з галавы таты, але афіцэр запярэчыў і запытаўся, куды крочыць бацька. Ён патлумачыў, што ідзе ў Негарэлае да маці, якая працуе перакладчыцай у немцаў, каб разам з імі выехаць на захад. Апроч таго, тата з афіцэрам

**Пакуль газваген праходзіў 15 кіламетраў, выхлапныя газы забівалі ўсіх пасажыраў...**

коратка абмовіліся пра вайну і аказалася, што яны ставіліся да яе аднолькава кепска...

Бацька ўсе ж такі дайшоў да свайго знаёмага — партызанскага сувязнога, які даставіў цяжка параненага ў савецкі франтавы шпіталь ва Уздзе, ужо вызвалены Чырвонай Арміяй.

...Калі мне споўнілася 10 гадоў, тата павёз мяне ў Трасцянец і са слязьмі на вачах распавёў сваёй дачцэ, дзе, калі і як адбываўся ягоны расстрэл...

**Пётр Кленка з Чэхіі:**



— Мае бацькі — чэшскія габрэі — прайшлі нацыстоўскія канцлагеры і выжылі, прычым маці была вязнем 12 лагераў, а тата — трох. Трасцянец стаў для яго апошнім месцам зняволення і прымусовай працы. Разам з сваім сябрам Каралем Шымекам бацька збег з Трасцянца да партызанаў, затым ваяваў супраць фашыстаў у складзе І Чэхаславацкага армейскага корпуса пад камандаваннем Людвіка Свабоды, восенню 1944 года, падчас баёў за Дуклінскі перавал, быў паранены і ўзнагароджаны чэхаславацкімі баявымі ардэнамі.

Я нарадзіўся пасля вайны, і ў мяне было шчаслівае дзяцінства. Ад бацькоў я навучыўся дзяліць людзей на добрых і кепскіх, а не ў залежнасці ад колеру скуры, нацыянальнасці ці веравызнання...

TV

## 17 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Рамантычная меладрама «Фота на дакументы» (Украіна).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Дыялогі аб цывілізацыі.
**16.00** Выхад ёсць.
**16.25** Eurovision. Вынікі тыдня.
**16.45** Меладрама «Каханне не дзеліцца на два» (Расія). 1-я - 4-я серыі.



**20.00** Галоўны эфір.
**21.20** Навіны надвор'я.
**21.40** Хакей. Чэмпіянат свету. Фінал. Прамая трансляцыя.
**00.20** Камедыя «Кухня» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** Фазэнда.
**11.10** «Брэйн-рынг».
**12.25** Горка!
**13.25** Адгадай мелодыю.
**14.05** Шматсерыйны фільм «Ой, ма-мач-кі!».



**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Тэорыя змовы».
**20.00** Контуры.
**21.05** Вызваленая Еўропа.
**22.00** Фільм «Каханне».
**00.20** Ідэальнае спатканне.
**01.20** Пражэктарпэрысхілтан.

### СТВ

**06.00** Серыял «Студэнты International».
**07.15** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.35** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.00** Фільм «Дачка Д'Артаньяна».
**10.15** Чыстая праца.
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Серыял «Салдаты».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Серыял «Next-2».
**15.25** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень».
**20.25** «Пасейдон». Мастацкі фільм.



**22.10** Зорны рынг.
**23.10** «Масква. Дзень і ноч».
**00.05** Серыял «Next-2».

### Беларусь 2

**07.05** Школа чараўніц.
**07.55** Серыял «Шчаслівыя разам».
**09.45** Турыст.
**10.30** Хочу в тэлевізар!
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Fitnews.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Латарэя «Залаты ключ».
**12.15** Кітай: інструкцыя па вывучэнні.
**12.45** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.20** Серыял «Мама - дэтэктыў».
**15.25** Баявік «Хэнхок».
**17.15** Хакей. Чэмпіянат свету матч за трэцяе месца.
**19.35** Суперлато.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**21.35** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**23.35** Дэтэктыў «Знак праўдзівага шляху».
**01.15** Вышэй за дах.

### Беларусь 3

**07.50** Калейдаскоп.
**08.00** «Візіт дамы». Трагіфарс. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1989 г.).
**10.15** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Наталля Нікіціна.
**10.55** «Наперад у мінулае».
**11.20** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.15** Калейдаскоп.
**12.25** «Раман з лёсам». «Айнебаліт». Жанчыны сяла.
**12.50** «Музеі Беларусі». Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы.
**13.20** «Адвечная песня». Янка Купала на тэлебачанні.
**14.10** «25+25». Юбілейны канцэрт заслужанага артыста Расіі Сяргея Рагожына.
**16.30** «Сяргей Рагожын. З музыкі і святла». Дакументальны фільм пра музыканта, заслужанага артыста Расіі.
**17.00** Калейдаскоп.
**17.10** «Падранкі». Драма (СССР, 1976 г.).
**18.40** «Культпрасвет».
**19.15** «Гори, гори, моя звезда…» Трагікамедыя (СССР, 1969 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Камандзір з вёскі Белае». Лётчык-касманаўт, Герой Савецкага Саюза Уладзімір Кавалёнак.
**21.30** «Тры дні ў Маскве». Камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1974 г.).
**23.35** «Культпрасвет».
**00.10** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**06.00** PRO спорт. Навіны.
**06.30** Футбол. Шахцёр - БАТЭ.
**08.15** Хакей. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
**10.20** Хакей. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
**12.20** Лёгкая атлетыка. Брыльянтавая ліга. Шанхай.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Манчэстар Юнайтэд - Арсенал.
**19.50** Настольны тэніс. Сусветны тур. Фіналы.
**21.20** Авертайм. ЧС-2015.
**00.20** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**02.20** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет.
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.05** Зона «Свабоды».
**08.45** «Заходнікі», дак. фільм.
**09.20** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.40** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Навумчык і Юрась Беленькі: Рэферэндум 1995 года: ч. 1.
**10.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Казкі для дзетак.
**11.00** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял.
**11.45** Мова нанова: «Жывёльны свет».
**12.05** ПраСвет.
**12.40** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**13.25** «Сын гандляра алівамі», дак. фільм.
**14.45** «Мы былі жаўнерамі», маст. фільм.
**17.00** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 9: «З Пекіну ў Паўднёвую Карэю».
**17.55** Форум: Чорны гумар беларусаў.
**18.40** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Партызанскі край XVII ст.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** «Я люблю дэмакратыю», цыкл дак. фільмаў: «На шляху: Іран. Забароненыя словы», 2013 г., Францыя.
**21.35** Кінаклуб: «Жыве Беларусь!».
**21.45** «Жыве Беларусь!», маст. фільм, 2012 г., Польшча.
**23.25** «Жыве Беларусь. За кадрам», рэпартаж.
**23.50** «Заходнікі», дак. фільм.
**00.29** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**01.10** «Сын гандляра алівамі», дак. фільм.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА — ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Стужкі — новыя сімвалы Перамогі

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні 9 мая краіны СНД ахапіла новая мода — прыдумляць сабе новыя сімвалы Перамогі, непадобныя на георгіеўскія стужкі. Кожная экс-рэспубліка СССР імкліва абзаводзіцца сваім дызайнам.**



Прычына пошуку новай сімволікі відавочная. Пасля крызісу ва Украіне, дзе георгіеўскія колеры выкарыстоўваюць прарасійскія сепаратысты, мясцовыя эліты зразумелі, што такая сімволіка нясе адпаведную ідэалагічную афарбоўку. Хаця да таго дастаткова працяглы час гэта быў сапраўды нейтральны сімвал.

Нагадаем, што ўпершыню георгіеўская стужка з'явілася ў 2005 годзе на мерапрыемствах расійскіх моладзевых арганізацый. Часам яна таксама выклікала скандалы, аднак, як правіла, з прычыны некарэктнага выкарыстання. Так, тынейджары часта прывязвалі тыя стужкі на ногі, упляталі ў валасы і г.д., шакуючы дарослых.

Першапраходцамі ў пошуках альтэрнатывы чорна-жоўтай стужцы, як не дзіўна, стала Беларусь — галоўны саюзнік РФ. У сінявокай праўладныя арганізацыі агітавалі насіць на 9 мая чырвона-зялёныя, а не жоўта-чорныя стужкі яшчэ 2–3 гады таму. У гэтым годзе да чырвона-зялёнай стужкі, як вядома, дадалася выява кветкі яблыні, а сама кампазіцыя стала абавязковым атрыбутам гардэробу супрацоўнікаў шматлікіх дзяржаўных службаў.

Аднак, безумоўна, непасрэдна парад стужак стартаваў увесну 2014 года. Першай на фронт барацьбы з георгіеўскай сімволікай выйшла Украіна. Год таму прэм'ер Арсень Яцанюк заявіў, што Украіна больш не будзе выкарыстоўваць у якасці сімвала Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне георгіеўскую стужачку. У якасці альтэрнатывы ён рэкамендаваў выяву маку. Гэта еўрапейская традыцыя, якая, аднак, далёка не проста пракладвае сабе шлях у лабірынтах украінскай калектыўнай свядомасці. З улікам дастаткова шырокіх маштабаў праблемы наркаманіі на берагах Дняпра, шмат хто называе выяву маку «наркаманскім сімвалам». З ініцыятывы мэрыі Днепрапятроўска, замест жоўта-чорных стужак сталі выкарыстоўваць жоўта-блакітны аналаг.

Другой пасля Украіны на шлях пошукаў новых колераў Перамогі стала Кіргізія. Напярэдадні 23 лютага гэтага года спецыяльная камісія мэрыі Бішкека загадала ўпрыгожваць сталіцу ў чырвона-жоўтых колерах дзяржаўнага сцяга. Так зробяць і на 9 мая. Праўда, частка апазіцыі супраць інавацый. Адзін з дэпутатаў ужо заклікаў да маніфестацый пратэсту супраць чырвона-жоўтых стужак. Але пакуль у Бішкеку ўсё ціха.

За кіргізамі падцягнуліся суседзі. 10 красавіка група грамадзянскіх актывістаў з Алма-Аты звярнулася да мэра горада з просьбай не раздаваць у школах георгіеўскія стужачкі. Прыкладна ў той жа час у Усцька-менагорску пачалі прапаноўваць мінакам і ўладальнікам машын блакітныя стужачкі з казахскім арнаментам залатога колеру.

Палеміка наконт стужак пачалася і ва Узбекістане. Тут у сацыяльных сетках разгарнулася дыскусія наконт таго, якія колеры ва Узбекістане могуць увасабляць Перамогу. У праціўнікаў георгіеўскіх стужак ёсць цікавы аргумент, звязаны з гісторыя каланізацыі краю Расійскай імперыяй. «Гэта стужка часоў Расійскай імперыі ўпрыгожвала медалі, якімі былі ўзнагароджаны салдаты і афіцэры царскай Расіі, забойцы як апалчэнцаў, так і грамадзян Какандскага і Хівінскага ханстваў, Бухарскага эмірата. Сёння гэта стужка — звычайны прапагандысцкі матэрыял. Калі сапраўды паважаеце ветэранаў, лепш наведвайце іх часцей, дапамажыце ім матэрыяльна», — піша адзін з праціўнікаў моды на жоўта-чорнае.

У некаторых краінах СНД вырашылі гвардзейскія стужкі проста забараніць. Так, напрыклад, у сакавіку 2015 года ад ліберальнай партыі ў парламент Малдовы паступіў адпаведны законапраект. Георгіеўская стужка, гаворыцца ў заяве лібералаў, стала сімвалам «беззаконня, хаосу, нестабільнасці і сотняў ахвяр сепаратызму», а яе выкарыстанне ў культурных, сацыяльных і палітычных мэтах «ўяўляе небяспеку для цэласнасці Малдовы». Дарэчы, гэта ўжо другая іхняя спроба расправіцца з «сімвалам беззаконня».

Мясцовы прэзідэнт Мікалай Цімофці таксама георгіеўскую стужку не шануе і думае яе паступова замяніць на бела-чорную. У прыватнасці, медаль да 9 мая ветэранам у Малдове будуць прымацаваны да калодкі з жалобнымі чорна-белымі паласамі. Надпіс на медалі: «70 гадоў з дня заканчэння Другой сусветнай вайны» і выявай Вечнага агню Мемарыялу «Вечнасць».

Нарэшце, Закаўказзе. У гэтым рэгіёне мода на георгіеўскія стужкі чамусьці адразу не пайшла. З Грузіяй усё зразумела — у Расіі георгіеўскія стужкі пачалі набываць папулярнасць паралельна росту напружанасці ў расійска-грузінскіх адносінах. Нядаўна тут з гэтай нагоды выбухнуў скандал: адна з кампаній скарыстала ў сваёй рэкламе малюнак георгіеўскай стужачкі і надпіс на рускай мове: «Я памятаю! Я ганаруся!» Апазіцыйная грамадскасць дамагалася ад яе выбачэння. У адказ у абарону стужкі ўзняліся арганізацыі, што абараняюць правы нацыянальных меншасцяў. Сітуацыя яшчэ больш заблыталася, калі ў скандал улезлі «нацыяналы» — сябры апазіцыйнай партыі, якой з-за мяжы кіруе Саакашвілі. Праўладныя палітыкі кажуць, што атака на стужку — справа рук Мішы.

У Арменіі, дзе традыцыйна моцныя прарасійскія настроі, асаблівых дэбатаў на гэты конт няма. Тут прапагандай стужкі традыцыйна займаецца расійскае пасольства. У Азербайджане тэма стужак слаба прадстаўленая ў СМІ, нягледзячы на тое, што ў мінулым годзе спроба іх раздачы ледзь не перарасла ў масавую бойку ў цэнтры сталіцы.

У цэлым можна канстатаваць разрыў постсавецкага дыскурсу пра вайну. Хаця ўсе аўтары макаў, яблык, чорна-белых калодак і г.д. клянуцца ў вернасці ідэі адзінства народаў СССР у вайне з фашызмам, відавочна, адбываецца нейкае паўзучае стварэнне свайго нацыянальнага міфу аб Другой сусветнай вайне, частка гэтага працэсу — лакальная сімволіка Перамогі. Парадокс у тым, што гэты працэс паскорылі якраз тыя, хто за кошт георгіеўскіх стужак намагаўся захаваць кокан савецкай гістарычнай школы.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

З пачатку года практычна ўсе флагманы беларускай эканомікі ўвайшлі ў сістэмны крызіс, рэзка скараціўшы вытворчасць. Дапамагчы ім дзяржава не ў стане. Для нармалізацыі эканамічнай сітуацыі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў кіраўніцтву Беларусі патрэбна сур'ёзная фінансавая дапамога з боку знешніх крэдытораў. Галоўны спонсар рэжыму Лукашэнкі — Крэмль. Аднак вось ужо некалькі месяцаў беларускаму прэзідэнту не атрымоўваецца раскруціць Маскву на традыцыйны бязвыплатны крэдыт. Чарговы раўнд выпрошванняў грошай у РФ намечаны на 8 мая, менавіта таму спадар Лукашэнка збіраецца ў гэты дзень «прадэманстраваць, што мы — Рускі свет».

**REGNUM (Расія)**

Каб прымірыць савецкае мінулае Украіны з яе еўрапейскай будучыняй, прэзідэнт Пётр Парашэнка абвясціў, што ў гэтым годзе краіна будзе святкаваць як гадавіну перамогі Захаду над Германіяй 8 мая, так і савецкі Дзень Перамогі 9 мая. Традыцыйныя аранжава-чорныя георгіеўскія стужачкі саступілі месца брытанскаму чырвонаму маку. Пуцінскі «праект» знішчыў усякую надзею на пашырэнне межаў рускага свету, заснаванага на агульных успамінах. Нават прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка вырашыў святкаваць Дзень Перамогі асобна.

**«The Economist» (Вялікабрытанія)**

На фоне паслаблення міжнароднай пазіцыі Расіі і яе магчымасці аказваць фінансавую дапамогу Беларусі і напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, дзе Аляксандр Лукашэнка рыхтуецца быць пераабраным у пяты раз, ён шукае шляхі легітымізаваць свой рэжым. Раней яму цалкам хапала прызнання з боку Расіі. Гэта дамінуючая дзяржава на постсавецкай прасторы, сапраўды рабіла легітымізацыю самых розных рэжымаў, вельмі крывавых. Аднак зараз, калі Расія рэальна саслабла, Лукашэнку гэтага мала, яму неабходная легітымізацыя з боку Захаду.

**«Аззатык» (Казахстан)**

Беларусь у любым выпадку будзе прысутнічаць на парадзе. Беларускімі камплектуючымі — электронікай і оптыкай — нашпігаваныя ўсе расійскія ракеты, сістэмы баявога кіравання і навядзення, ваенныя кампутары і авіёніка ў самалётах, радары і г.д. А з 2014 года, калі пачалася вайна санкцый, і Расія пазбавілася магчымасці закупляць электронна-кампанетную базу для сістэм узбраенняў на Захадзе, беларуская роля ў расійскім ВПК яшчэ больш узрасла: без дапамогі суседзяў праграмы імпартазамяшчэння ў абаронцы наўрад ці пачалі працаваць. Але на пачатку гэтага года Аляксандр Лукашэнка прамым тэкстам даў зразумець усяму расійскаму ВПК: ранейшы фармат супрацоўніцтва яго больш не задавальняе. У беларусаў — уласны гонар і далёка ідучыя амбіцыі.

**«Новое время» (Расія)**

Сам прэзідэнт Лукашэнка ад гэтага «вектару» на Захад старанна адхрышчваецца. Трэба заўважыць, што асабіста Аляксандра Рыгоравіча цяжка прылічыць да «заходнікаў». Але нават яму цяжка супрацьстаяць сацыяльнай замове кіруючага пласта. Таму заходні вектар, які аб'ектыўна прысутнічае ў палітыцы беларускай дзяржавы, прадыктаваны перш за ўсё ціскам вышэйшай бюракратыі, беларускіх алігархаў і «сярэдняга класа». Другі фактар збліжэння з Захадам — гэта асцярогі «крымскага сцэнару» ў дачыненні да Беларусі з боку Расіі. І трэці фактар «адлігі» — боязь Майдана ў Беларусі. Беларускі прэзідэнт чамусьці верыць, што фліртз Захадам прымусіць апошні адмяніць планы па ўсталяванні ў Беларусі выгаднай яму адміністрацыі. З боку складваецца ўражанне, што Аляксандр Лукашэнка, губляючы папулярнасць і падтрымку ва ўласнага народа, гатовы «здаць» уладу празаходнім «менеджэрам» у абмен на гарантыі ўласнай бяспекі і дабрабыту.

**«Руская планета» (Расія)**

Пасля прарыву на перамовах па Украіне, якія праводзіліся ў яго прэзідэнцкім палацы, Лукашэнка даў зразумець, што быў бы рады запрашэнню на саміт Усходняга партнёрства, які пройдзе 21–22 мая ў Рызе, і гэта нягледзячы на забарону на ўезд у ЕС. Тым не менш, адзін еўрапейскі дыпламат сказаў наступнае: «Мы чакаем прадстаўніка Беларусі на саміце ў Рызе, але не спадара Лукашэнку». Аналагічную думку выказаў і намеснік старшыні фракцыі ХДС / ХСС у Бундэстагу Франц Ёзэф Юнг: «З прычыны ўнутрыпалітычнай сітуацыі ўдзел Лукашэнкі не ўяўляецца магчымым». Праўда, усё магло б змяніць вызваленне беларускіх палітычных зняволеных.

**«Tagesspiegel» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Новыя чуткі пра пераемніка Назарбаева

Першыя крокі Нурсултана Назарбаева, пятым разам пераабранага на пасаду прэзідэнта Казахстана, выклікалі новы шквал спекуляцый наконт пераемніка Елбасы. Глебу для плётак дала поўная адсутнасць хаця б нейкіх крокаў да рэформаў пасля перамогі. На думку некаторых, тым самым Назарбаеў дае сігнал, што пакідае ўсё як ёсць, або, іншымі словамі, вызначыўся з колам асобаў, якія возьмуць уладу. Гэта будзе тандэм прэм'ера Карыма Масімава і дачкі прэзідэнта Дарыгі Назарбаевай. Першы і надалей застанецца прэм'ерам, а старэйшая дачка стане прэзідэнтам. Дарыга Назарбаева на пасадзе прэзідэнта захавае пераемнасць улады і гарантыі для нафтавых кантрактаў. Рэальная ж улада будзе ў руках прэм'ера Карыма Масімава. Што тычыцца самога Назарбаева, то, быццам, у самы бліжэйшы час ён публічна заявіць пра свой сыход. Хутчэй за ўсё, будзе займаць сімвалічную пасаду кіраўніка Еўразійскага саюза.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЧЭХІЯ. 70 гадоў мікрахвалёўцы

Практычна ніхто, акрамя прэсы Чэхіі, не згадаў, што роўна 70 гадоў таму ў ЗША была прадэманстравана першая т.зв. печка ЗВЧ, або, прасцей кажучы, мікрахвалёўка. Інтарэс чэхаў да юбілею гэтай прылады тлумачыцца тым фактам, што яшчэ ў 1924 годзе адзін з прафесараў пражскага ўніверсітэта практычна наблізіўся да стварэння мікрахвалёўкі. Аднак лаўры, безумоўна, належаць амерыканскаму інжынеру Персі Спенсеру. Першая ў свеце ЗВЧ-печка з'явілася ў красавіку 1945-га і пачала масава выпускацца ў 1947 годзе фірмай «Raytheon». Праўда, яна была прызначаная не для прыгатавання ежы, а для хуткага размарожвання прадуктаў у сталовых ваенных шпіталяў. Яе вышыня была прыкладна роўная чалавечаму росту і каштавала яна 3 тысячы долараў. У прынцыпе, гісторыя мікрахвалёўкі цікавая тым, што з 1960-х гадоў яна набыла цяперашнія памеры, стала даступнай кожнаму іператварылася ў адзін з сімвалаў спажывецкага грамадства, што вельмі не падабалася кіраўнікам савецкага блоку. Чэшская прэса піша, што феномен ЗВЧ, які спрасціў хатнюю працу жанчыны, вельмі спрыяў падзенню папулярнасці камунізму ў Чэхіі. Застаецца дадаць, што вынаходнік мікрахвалёўкі нават не закончыў сярэдняй школы, а прынцып працы ЗВЧ адкрыў, паколькі вельмі любіў шакалад. Аднойчы ён выпадкова пакінуў у кішэні шакаладны батончык і прыступіў да працы з магнетронам — магутным электронным прыборам, што генеруе мікрахвалі. Праз некалькі хвілін Спенсер адчуў у кішэні лякучы шакалад і прыдумаў апарат, без якога цяжка ўявіць наш цяперашні побыт.

**Паводле чэшскай прэсы**

### РАСІЯ. Ці будзе ў Расіі Россвятнагляд?

Дастаткова салідная выданне «Ведомости» заклікала ўлады Расіі стварыць новы орган — сакральную службу Расіі, або скарочана Россвятнагляд. Галоўныя функцыі новай службы — нагляд за выкарыстаннем сімволікі, якая мае дачыненне да сакральнага (пад такой разумеецца сімволіка РПЦ, Дня Перамогі, а таксама вобразу прэзідэнта Пуціна). Паводле выдання, стварэнне спецыяльнай службы і сімвалічнага рэгламенту дазволіць навесці парадак у гэтай сферы. «У сённяшняй Расіі рэзка ўзрасла вытворчасць знакаў і сімвалаў. Але ўзнікае сур'ёзная супярэчнасць: для дасягнення мабілізацыйнага эфекту сімвалы, на першы погляд, трэба выкарыстоўваць як мага больш інтэнсіўна, але, з іншага боку, ад гэтага сакральны эфект падае, а ўтылітарнае ўжыванне сімвалаў прыводзіць да канфузу. Так, напярэдадні 70-годдзя Перамогі мы бачым бясконцыя гісторыі з георгіеўскімі стужачкамі, якія выкарыстоўваюцца ў маркетынгу любых тавараў. Цалкам немагчыма зразумець, што правільна і што не», — канстатуе выданне, заклікаючы дзяржаву ўрэгуляваць гэтую сферу дзейнасці.

**Паводле расійскай прэсы**

### РУМЫНІЯ. Змена дзяржаўнай сімволікі

Дэпутаты парламента Румыніі ад Нацыянал-ліберальнай партыі выступілі з заканадаўчай ініцыятывай аб змене дзяржаўнага сцяга: народныя абраннікі прапануюць у цэнтры сцяга дадаць дзяржаўны герб і каралеўскую карону. «Паколькі ў цяперашні час праводзяцца агульнанацыянальныя дэбаты па змяненні Канстытуцыі, мы ўносім прапанову змяніць дзяржаўны сцяг краіны, дадаўшы на жоўтым фоне дзяржаўны герб і каралеўскую карону», — адзначыў адзін з аўтараў законапраекта. Дэпутаты аргументуюць ідэю змены дзяржаўнага сцяга тым, што сцяг, герб і карона сімвалізуюць усе этапы гісторыі румынскага народа. Сцяг Румыніі ў цяперашні час уяўляе сабой тры роўнавялікія вертыкальныя (сіняя, жоўтая, чырвоная) паласы. Упершыню малюнак сцяга быў зацверджаны ў 1840 годзе. Парадокс заключаецца ў тым, што сімвалам аднаго з этапаў гісторыі краіны ёсць дзірка на сцягу — падчас паўстання супраць Чаўшэску ў 1989 годзе румыны выразалі са сцягу герб сацыялістычнай Румыніі, аднак гэты момант ініцыятары новай сімволікі праігнаравалі.

**Паводле румынскай прэсы**

# Краіна ўзыходзячага рэвізіянізму

*Алег НОВІКАЎ*

**Падаецца, што 70-я гадавіна перамогі найбольш супярэчліва ўспрынятая ў Японіі, дзе заклікі да рэвізіі Другой сусветнай вайны агучваюцца на самым высокім афіцыйным узроўні.**



Апошні скандал на гэтую тэму выбухнуў літаральна на мінулым тыдні, калі прэм'ер Сіндзо Абэ публічна ігнараваў заклік віцэ-старшыні сваёй ліберальна-дэмакратычнай партыі — прызнаць злачынствы Японіі ў часы вайны. Дэмарш прэм'ера адразу выклікаў пратэсты ў Карэі, Кітаі і ЗША, аднак віноўнік скандалу ўпарта трымаецца сваёй лініі. Ён сцвярджае, што маральная траўма ад Другой сусветнай вайны перашкаджае яго суайчыннікам мабілізавацца перад выклікамі цяперашняга крызісу.

У адным з інтэрв'ю Сіндзо Абэ прызнаўся, што стаміўся ад неабходнасці прасіць прабачэння падчас візітаў у замежныя краіны за ролю яго краіны ў Другой сусветнай вайне. «Падобнае стаўленне на працягу 70 гадоў прывяло да страты японцамі гонару, сёння яны сталі няздольныя да самасцвярджэння, праяўляюць пасіўнасць перад тварам рэформаў», — кажа чыноўнік. Краіна, на думку Абэ, зноў павінна стаць вялікай і моцнай. Што тычыцца адказнасці за вайну, то Японія, на яго думку, ужо спазнала маральныя комплексы за былыя злачынствы.

Як жа, паводле японскіх рэвізіяністаў (рух якіх паўстаў у 1950–1960-я гады і ўяўляе цэлы блок грамадскіх ініцыятыў, выдавецтваў і інстытутаў) патрэбна глядзець на Другую сусветную вайну? Перш за ўсё, ніякай агрэсіі Японіі ў кантынентальную Азію ў 1930–1940 гады мінулага стагоддзя, на іх думку, не было. Мела месца нешта накшталт гуманітарнай дапамогі братам па расе, якія, маўляў, пакутавалі ад палітычнага хаосу (Кітай) або ад культурнай асіміляцыі з боку каланізатараў з Захаду (брытанскія, галандскія, амерыканскія калоніі).

Засяроджваецца ўвага на тым, што на акупаваных тэрыторыях фармальна дзейнічала не японская адміністрацыя, а мясцовыя ўрады. Сапраўды, падчас вайны японцы стварылі цэлы гербарый марыянетачных дзяржаў (Філіпіны, Індыя, Манджурыя, Унутраная Манголія і г.д.), якія ўключылі ў нейкі аналаг садружнасці — Вялікая ўсходнеазіяцкая сфера сумеснага квітнення. Адсюль паходзіць тэзіс пра тое, што шматлікія краіны рэгіёну з часам атрымалі незалежнасць выключна таму, што японцы стварылі прэцэдэнт, які пасля вайны ігнараваць было немагчыма.

> **Рух за рэвізію паўстаў у 1950–1960-я гады і ўяўляе цэлы блок грамадскіх ініцыятыў, выдавецтваў і інстытутаў**

Таксама адмаўляюцца факты гвалту, што здзяйснялі японскія жаўнеры, накшталт сумна вядомай разні ў Нанкіне. Калі тую масакру і ўзгадваюць, то як вынік узаемнай вайсковай канфрантацыі, ахвярамі якой выпадкова аказалася цывільнае насельніцтва.

Наступная важная тэма — абвінавачанне на адрас Японіі ў арганізацыі сістэмы сексуальнага рабства. Падчас вайны, перш за ўсё ў Кітаі і Карэі, кабет прымусова рэкрутавалі працаваць у публічным дамах, т.зв. «станцыях суцяшэння», які існавалі пры гарнізонах. Па розных падліках, праз «станцыі суцяшэння» прайшло ад 50 да 300 тысяч маладых жанчын, многія з якіх былі маладзей за 18 гадоў. Да канца вайны дажыла чацвёртая частка з іх, паколькі ўмовы існавання былі жудасныя; яны абслугоўвалі па 20–30 салдат у дзень. Яшчэ ў 2007 годзе японскі прэм'ер заявіў, што т.зв. «кабеты для камфорту» — так афіцыйна называлі тых кабет — выдумка, сфабрыкаваная ворагамі Японіі.

Увогуле, калі верыць японскім нацыяналістам, стаўленне тубыльцаў да акупантаў было дастаткова лаяльным і змянілася на негатыўнае толькі пасля фатальнай памылкі, калі ўлады пачалі навязваць вывучэнне японскай мовы ў школах і практыкаваць сінтаізм як рэлігію. Гэтым скарысталіся праціўнікі Японіі, якія аператыўна наладзілі партызанку.

Асобнае пытанне ў працах рэвізіяністаў: хто — Японія або Штаты — развязаў вайну ў Ціхім акіяне? Рэвізіяністы лічаць, што Рузвельт свядома правакаваў Японію, не пакінуўшы той іншага выйсця акрамя вайны. Згодна з гэтай тэорыяй, Японія выглядае нейкай аморфнай масай, якая нічога не рабіла і проста рэагавала на выпады ЗША.

Больш таго, каб атрымаць алібі на вайну з Японіяй у амерыканскім грамадстве, Белы дом справакаваў японцаў атакаваць базу ў Перл-Харбар. Аргументацыя тут такая. За месяц да нападу амерыканцы перахапілі тайную тэлеграму японскім пасольствам, у якой іх інструктавалі, што рабіць у выпадку пачатку вайны. Напярэдадні нападу на Перл-Харбар, час якога ў Вашынгтоне цудоўна ведалі, маракам і жаўнерам на базе, быццам, спецыяльна далі выходныя, каб ахвяры атакі былі проста катастрафічнымі і мабілізавалі Амерыку.

Натуральна, калі паглядзець на храналагічны парадак падзей, такі погляд не вытрымлівае ніякай крытыкі. Менавіта Токіа ўвесь час стаяла за эскалацыяй вайсковых дзеянняў. Па ходу гэтага непазбежнасць вайны паміж ЗША і Японіяй станавілася зразумелая ўжо шмат каму, Рузвельту ва ўсякім выпадку дакладна. Аднак ЗША да канца 1941 года яшчэ былі не зусім гатовыя да вайны і з усіх сіл спрабавалі адцягнуць яе пачатак з дапамогай дыпламатычных крокаў.

Чым пагражае індактрынацыя японцаў падобнымі рэвізіянісцкімі канцэптамі? Карэйская прэса, якая стала займаецца маніторынгам тэндэнцыі, піша, што «спрэчныя гістарычныя думкі Эбэ ствараюць стратэгічную дылему ў ЗША, паколькі яны перашкаджаюць ініцыятывам Вашынгтона паглыбіць супрацоўніцтва ў галіне бяспекі з рэгіянальнымі саюзнікамі і ўсталяваць стабільныя адносіны з Пекінам. ЗША і Японія падзяляюць тыя ж самыя мэты — трымаць на кантролі Кітай і стрымліваць непрадказальную КНДР. Адмова Токіа ад гістарычных дактрынаў патэнцыйна здольная перашкодзіць намаганням у гэтым накірунку. Скарыстаўшыся ростам непрыязнасці да Японіі ў Карэі, Кітай будзе імкнуцца да ўмацавання сувязяў з Сеулам, што стане моцным ударам па пазіцыях Вашынгтона».

Думаецца, бліжэй да жніўня, калі будзе адзначацца юбілей капітуляцыі Японіі, па ўзроўню актыўнасці рэвізіяністаў можна будзе замерыць узровень іх уплыву на грамадства. Між тым, эксперты ўжо баяцца, што патрыятычны бум, які выбухне ў жніўні, можа стварыць адпаведную грамадскую атмасферу, здольную паўплываць на ход і вынікі парламенцкіх выбараў у наступным годзе.

# Малдоўскі крызіс

**Да гарачых кропак на прасторах СНД мае сумны шанец дадацца Малдова. З-за падзей ва Украіне абвастрылася сітуацыя вакол Прыднястроўя, у Гагаузіі перамаглі прарасійскія сілы, у Кішынёве ідуць вулічныя акцыі... Пра актуальныя падзеі ў краіне журналісту НЧ Алегу Новікаву распавёў актывіст малдаўскай арганізацыі «Rezistenta Populara» Вадзім Лунгул.**



***—У апошніх рэпартажах з Малдовы паказваюць буйныя маніфестацыі ў цэнтры Кішынёва. У чым сутнасць пратэстаў? Ці паўплываюць яны на пазіцыі ўраду?***

— Сутнасць у тым, што з трох камерцыйных банкаў быў канфіскаваны — а па сутнасці выкрадзены — 1 мільярд еўра, што прывяло да панікі на валютным рынку. Каб не «накрылася» ўся банкаўская сістэма, Нацбанк крэдытаваў на 5 мільярдаў еўра гэтыя банкі — інакш кажучы, нацыяналізаваў абавязак. Фактычна, людзей вымусілі плаціць двойчы: спачатку на гульні курсамі валют, а затым — выцягнуўшы нашы грошыкі з бюджэту. Пратэст развіваўся ў большай ступені спантанна, праз сацсеткі, хаця ў першы раз выйшла каля 4 тысяч чалавек. Лідары пратэсту выступаюць як прыхільнікі «праўдзівай» еўраінтэграцыі і вінавацяць улады ў тым, што яны толькі імітуюць еўраінтэграцыю. Магчыма, гэтымі пратэстамі спрабуюць рэабілітаваць саму ідэю еўраінтэграцыі, якая падмочаная еўраінтэгратарамі пры ўладзе.

***— Тэма апатыі наконт еўраінтэграцыі гучыць вельмі дзіўна з улікам таго, што прыкладна год таму Малдова атрымала бязвізавы рэжым з ЕС.***

— Парадаксальна, але бязвізавы рэжым асабліва не ўзмацніў праеўрапейскія настроі. Адказ просты — хто хацеў з'ехаць у ЕС, даўно з'ехаў. Той, хто хацеў працаваць па-за межамі Малдовы, атрымаў румынскі пашпарт, які дазваляе працаваць, у адрозненне ад цяперашняга біяметрычнага. Біяметрычны пашпарт дазваляе толькі перасоўванне, прычым з буйной сумай грошай (50 еўра штодня на чалавека).

***— Зімой у Малдове адбылася дэвальвацыя лея. Наколькі гэта пагоршыла эканамічны стан малдаван? Якая цяпер сярэдняя зарплата ў краіне?***

— Натуральна, пагоршыла. Таму нават грамадзянская супольнасць пачала прачынацца і вылучаць сацыяльныя патрабаванні, чаго да гэтага часу не назіралася. Нашы грамадзянскія арганізацыі сумленна адпрацоўваюць заходнія гранты, дзяржаўныя органы — наскрозь карумпаваныя, а палітычныя партыі — проста групоўкі па абароне інтарэсаў пэўных алігархаў. Эканамічнае становішча вельмі хісткае, зарплаты выплачваюцца вельмі нізкія, часта нерэгулярна. Дадалі зарплату суддзям і іншым чыноўнікам, вось сярэдні паказчык і вырас, але рэальная зарплата — дзесьці каля 150 долараў.

***— Наступная заўважная падзея ў малдоўскім палітычным календары — чэрвеньскія выбары мэра сталіцы. Наколькі яны важныя для палітычнай будучыні краіны? Хто мае лепшыя шанцы стаць мэрам?***

— Выбары кішынёўскага мэра — або, як яго называюць, прымара — вельмі важныя, хаця б таму, што гэта добры адмінрэсурс для будучых перадвыбарных кампаній. Дзеючы мэр, ліберал Дорын Кіртоакэ, паказаў сваю поўную недзеяздольнасць на гэтай ніве як «гаспадарнік». Калі яго рашэннем былі павышаны тарыфы на ваду і адменены бясплатны праезд для пенсіянераў і студэнтаў, раз'юшаныя жыхары горада ўварваліся ў ратушу і ледзь не збілі прымара. На выбары, хутчэй за ўсё, пойдзе Рэната Вусаты, бізнесмен-«браток», а таксама Майя Лагута, лідар арганізацыі па абароне правоў грамадзян «Salvgardare». Але сур'ёзная барацьба разгорнецца паміж трыма сіламі — дзеючай уладай, камуністамі, а таксама, безумоўна, сацыялістамі, якія сенсацыйна абышлі камуністаў на мінулых парламенцкіх выбарах. У гэтым заключаецца інтрыга.

***— Чаму сацыялісты Ігара Дадона сталі вядучай левай і апазіцыйнай сілай у Малдове? Якая сітуацыя ў кампартыі ў кантэксце росту папулярнасці сацыялістаў?***

— Партыя сацыялістаў уяўляе сабой тут прарасійскую частку малдаўскага электарату, якая вельмі значная, у тым ліку і на тэрыторыі РФ. Паводле апошніх дадзеных, такіх налічваецца каля 700 тысяч чалавек. Дадон адкрыта сустракаецца з прадстаўнікамі Дзярждумы РФ і робіць на гэтым піяр. Раней гэтую нішу займаў Уладзімір Варонін з Кампартыяй. Але з-за невыразнай пазіцыі, якую ён заняў на мінулых выбарах, частка электарату пайшла ад Вароніна і падтрымала Дадона. Камуністы набралі каля 20%, а Дадон — 26%, прычым абагнаў усе астатнія партыі. З іншага боку, у кампартыі Вароніна — разброд і хістанне. Асабліва пасля таго, як Варонін абраў сабе ў кумы алігарха Плахатнюка — лялькавода кішэннай дэмпартыі, і прагаласаваў за цяперашні ўрад. Маючыя адбыцца выбары ў мясцовыя органы ўлады, хутчэй за ўсё, пакажуць поўны крах гэтай палітычнай сілы.

***— Якімі ты бачыш перспектывы Прыднястроўя?***

— ПМР выжывала да гэтага часу за кошт двух аспектаў — падтрымкі РФ і працы інфраструктуры, што засталася з часоў СССР. Дзякуючы былому рэжыму на Украіне, які быў лаяльны да ПМР, праблем з вывазам прадукцыі і падтрымкай не ўзнікала. Сёння Украіна спрабуе задушыць усялякае эканамічнае супрацоўніцтва з РФ. У дадатак у РФ з'явіліся новыя «донарскія вобласці» ў выглядзе Крыма і Данбаса. Як вынік, гэтыя прэферэнцыі для Малдовы будуць зменшаныя, што вымусіць, хутчэй за ўсё, зацягваць паясы і прывядзе да сацыяльных узрушэнняў (сацыяльныя пратэсты ўжо мелі месца ў лютым-сакавіку) і ўцёкаў грамадзян у тую ж Расію. У любым выпадку, РФ будзе і далей у меру сваіх магчымасцяў падтрымліваць ПМР, як фактычна расійскі фарпост, асабліва зыходзячы з цяперашняй канфрантацыі з ЗША і ЕС.

***— Што, на тваю думку, чакае Малдову ў бліжэйшы час?***

— Альянс правых партый пачаў распадацца, хоць несістэмныя лібералы пачалі вылучаць сацыяльныя патрабаванні, каб пасунуць «Альянс» і знайсці сабе месца ва ўладзе. Праўда, крызіс у зоне еўра вядзе да падзення падтрымкі выбаршчыкамі ўсіх тых, хто вядзе нас туды. Ліберальная партыя дабіваецца далучэння да Румыніі, прычым гатовая ўваходзіць нават без ПМР, а магчыма, і без Гагаузіі. Толькі ЕС на гэта ніяк не пойдзе, пасля падпісання дамовы аб Асацыяцыі, тавары з ЕС і так свабодна і бяспошлінна ўвозяцца ў РМ. Мяркую, Малдову чакае доўгі шлях па мадэрнізацыі і сертыфікацыі вытворчасці, што можа заняць каля 5 гадоў, і адгукнецца абвастрэннем сацыяльнай напружанасці.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ільхам Аліеў



Прэзідэнт Азербайджана Аліеў падпісаў указ аб уступленні ў сілу паправак у закон аб «Фізічнай культуры і спорце». У прыватнасці, у закон унесены пункт, які забараняе з'яўленне на спартыўных аб'ектах асоб, які закрываюць свае твары маскамі і адмаўляюцца ад праверак з боку супрацоўнікаў спартыўнага аб'екта. Дадзеная папраўка, як піша прэса, тычыцца футбольных фанатаў, якія часта парушаюць правілы паводзінаў падчас футбольных матчаў. Аліеўскія папраўкі, відавочна, узніклі не на пустым месцы. Аднак усе таксама згодныя, што галоўным матывам для крыміналізацыі фанатаў стала праблема палітычнай небяспекі. У апошніх рэвалюцыйных падзеях ва Украіне і Егіпце менавіта фанацкія групоўкі, якія рэкрутуюцца з сацыяльных маргіналаў, сталі ў авангардзе вулічных маніфестантаў. У фанацкіх колах Азербайджана, мяркуючы па ўсім, таксама модны ўкраінскі прыклад. Так, у мінулым годзе прыхільнікі азербайджанскай зборнай асвісталі расійскі гімн падчас матчу Азербайджан — Расія. Пра патэнцыял фанатаў таксама сведчаць леташнія падзеі падчас матчу футбольных клубаў «Хазар Лянкяран» і «Нефтчы», калі фанаты падпалілі стадыён горада Лянкяран. Пасля сутычка паміж заўзятарамі перарасла ў масавыя вулічныя беспарадкі, якія давялося ліквідаваць з дапамогай вайскоўцаў і супрацоўнікаў службы аховы.

### Берні Сандэрс



Сябра сенату ЗША ад Дэмакратычнай партыі Берні Сандэрс (нарадзіўся ў 1941 годзе) вырашыў балатавацца ў прэзідэнты. Увогуле, Сандэрс — не адзіны палітык у гэтым жанры: толькі на мінулым тыдні чатыры палітыкі, у тым ліку дэмакраты, выявілі жаданне пераехаць у Белы дом у наступным годзе. Аднак вылучэнне Сандэрса выклікала інтарэс: у адрозненне ад іншых дэмакратаў, якія складуць канкурэнцыю Хілары Клінтан, Берні вядомы ва ўсёй краіне і мае сваю сталую сацыяльную базу. Справа ў тым, што ён — нефармальны лідар левай фракцыі ў партыі дэмакратаў. Славу яму прынесла абранне на пасаду мэра ў адным з гарадоў у штаце Вермонт у 1981 годзе, дзе ён цяпер лічыцца самым папулярным палітыкам. Менавіта гэты аспект выклікаў шмат крытыкі на адрас Берні. Лічыцца, што ён лёгка можа стаць губернатарам штату замест таго, каб цягацца з Хілары, якая, відавочна, мае больш рэсурсаў і, адпаведна, шансаў. Дарэчы, Хілары Клінтан прывітала рашэнне Сандэрса ўключыцца ў прэзідэнцкую кампанію. На сваім Twitter яна напісала, што яна і Берні разам змогуць абараніць сярэдні клас ад рэспубліканцаў. Напэўна, чытачам будзе цікава даведацца, што Берні паходзіць з яўрэйскай сям'і, якая да вайны жыла ў Польшчы.

### Ахмед Давудаглу



Турэцкі прэм'ер-міністр вельмі заклапочаны тым, што нямецкі парламент не так даўно афіцыйна прызнаў факт генацыду армян у Асманскай імперыі ў 1915 годзе. Гэта не проста маральны ўдар для Анкары, якая адмаўляе генацыд. Справа ў тым, што ў ФРГ жывуць прыкладна 5 мільёнаў этнічных турак. Адпаведна, турэцкія дзеці будуць вымушаны вывучаць гісторыю, альтэрнатыўную турэцкай. У сувязі з гэтым турэцкі прэм'ер заклікаў турэцкую грамаду Германіі выступіць супраць увядзення ў падручнікі гісторыі тэкстаў пра генацыд. «Ніхто не мае права прымушаць нашых дзяцей вучыцца па вучэбных планах, якія здзекуюцца з нашай гісторыі», — кажа Ахмет. Па яго словах, ён ужо патрабаваў ад канцлера Ангелы Меркель даць маладым туркам права не наведваць заняткі, на якіх будуць вывучаць гэтую тэму ў гістарычных падручніках. Увогуле, гэта не першая спроба турэцкіх лідараў заблакаваць інфармацыю пра падзеі 1915 года. У 2009 годзе лідар турэцкай камуны ў зямлі Брандэнбург патрабаваў вызваліць турках ад вывучэння гэтай тэмы, паколькі такая інфармацыя можа, па яго словах, «парушыць унутраны свет маладых туркаў і выклікаць у іх псіхалагічныя праблемы».

# Шляхі Уладзіміра

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Умоўна жыццё кожнага з нас можна падзяліць на пэўную колькасць этапаў, праз якія мы крочым рознымі дарогамі. Не выпадкова адно з самых вядомых апавяданняў О.Генры называецца «Дарогі, якія мы абіраем». Вядомы пісьменнік і выдавец Уладзімір Сіўчыкаў падобных выбараў зрабіў нямала, аб чым па просьбе аўтара ён і ўспамінае. Пісьмова...**

## Шлях у жыццё



З маці перад ад'ездам у Карэлію ў будатрад, ліпень 1985 г.

Пабачыў свет я ў 1958 годзе, у дзень, пазначаны ў календарах як Дзень сонца, Сусветны дзень вольнага друку, Дзень Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 Мая і Дзень Канстытуцыі ў Японіі, дні нараджэння такіх знакамітасцяў, як італьянскі мысляр Мікола Макіявелі, 5-ы прэм'ер-міністр Ізраіля Голда Меір дый многіх іншых славутых людзей. Сярод іх і ваенны і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мецэнат князь Багуслаў Радзівіл, які ў 1643 годзе заснаваў маё роднае Жодзіна.

Дагэтуль бытуе стэрэатып пра маладосць горада, а між тым яму больш за 370 гадоў. Нават найменняў ён меў некалькі — Жодзіна Слабада, Жодзін, Жодынь і Багуслаў Поліс, што азначала — горад Багуслава.

Па мячы род мой вядзецца з мясцовых, а па кудзелі — з беларуска-расійскага памежжа, з Невельшчыны.

Мама Лідзія Кузьмінічна, якая на Каляды пайшла ў лепшы свет, мела працоўны стаж, пераважна на беларускай чыгунцы, 37 гадоў 5 месяцаў і 23 дні. Можа таму нярэдка згадваецца мне ў працоўным, паўвайсковым строі правадніцы вагона. Дый першым жытлом маім быў чыгуначны барак (з пакоем на сям'ю з чатырох чалавек у 11 квадратных метраў), які стаяў да рэек настолькі блізка, што сваякі, калі прыязджалі ў госці, не маглі спаць начамі, бо ў абодва бакі несупынна праносіліся эшалоны.

У дзяцінстве нямала гасцяваў я ў бабы Варкі ў вёсцы Старая Мётча на Барысаўшчыне, а таксама ў бабы Пашы з дзедам Нупрэем у Неўлі з ягонымі бясконцымі азёрамі. Але ці не другім маім прытулкам быў дом на жодзінскай вуліцы Маскоўскай, 41, — дом з шыкоўным вішнёвым садам дзядзькі Вані і цёткі Вольгі Аўчарэнак.

Сядзіба стаяла непадалёк ад вадасховішча на рацэ Пліса, дзе ў вольны час з аднагодкамі і сябрамі можна было знайсці безліч заняткаў дый забавак. Вадасховішча ўтварылася, калі напачатку 50-х гадоў збудавалі колішнюю Смалявіцкую ДРЭС, і заўсёды аказвала на жодзінцаў магічны, прыцягальны, магнетычны ўплыў.

Усё лета можна было купацца, катацца на лодках, здабываць аер, вадзяны арэх ці лілеі, праседжваць на беразе з вудамі або эцюднікам.

Нават узімку ў лепшыя гады вадасховішча не замярзала, бо проста ў рэчку праз берагавую насосную з цыркуляцыйнымі вадаводамі, якія ў прастамоўі зваліся «брызгалкай» і «бурлілкай», інжынеры-«цудадзеі» надумаліся скідаць адпрацаваную пару і гарачую ваду!

Цяпло даўно ўжо ашчаджаюць, і электрастанцыя цяпер завецца Жодзінскай цеплаэлектрацэнтраллю. «Брызгалка» з яе абсалютна ўнікальнай сістэмаю труб ужо колькі гадоў як парэзаная на металалом. Разабраныя драўляны басейн, дзе трэніраваліся плыўцы і ватэрпалісты, а таксама агароджа «жаботніка».

Першыя тры гады я прavучыўся ў Жодзінскай школе-інтэрнаце.

Калі стаў школьнікам мой малодшы брат Жэня, дык маці перавяла мяне, каб хадзілі разам, у СШ №3, у будынках якой працуе цяпер адзіная ў краіне жаночая гімназія. А з-за пераездаў паспеў я павучыцца яшчэ ў 4-й і 5-й школах, і такім чынам пабыць вучнем чатырох гарадскіх школ з тагачасных шасці.

У ліку жодзінскіх школьнікаў меў за шчасце вучыцца ў такіх выдатных педагогаў, як гісторык Міхась Ткачоў, мастак Аляксей Марачкін, фізкультурнік Міхаіл Элімелах. Наведваў таксама студыі выяўленчага мастацтва Уладзіміра Макарава і Анатоля Казарэза, а таксама баскетбольную секцыю Генадзя Носава. Мастацтва перамагло спорт, і пасля 8-га класа паступіў я ў Мінскую мастацкую вучэльню.

Потым была служба ў войсках сувязі, некалькі год у якасці мастака-афарміцеля Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта.

## Шлях у літаратуру

Размеркаваўся я ў часопіс «Бярозка». Працаваў напачатку тэхрэдам, а потым літсупрацоўнікам і намеснікам галоўнага рэдактара. У трыццаць гадоў упершыню патрапіў за мяжу ў складзе дэлегацыі кіраўнікоў моладзевага друку Беларусі. Праўда, быў у ёй яшчэ толькі Уладзімір Някляеў, які рэдагаваў тады часопісы «Крыніца» і «Родник». Калі вярнуліся з Чэхаславаччыны, дык неўзабаве ляснуўся тамтэйшы моладзевы саюз, а нашы камсамольскія бонзы, калі адбіралі ў нас замежныя пашпарты, бурчэлі напаўжартам: «Ну вось, з'ездзілі Някляеў з Сіўчыкавым у Прагу ды Пльзень дый развалілі чэхаславацкі камсамол!»



Уладзімір Сіўчыкаў. Мастак Арлен Кашкурэвіч. 2005 г.

Але і папраўдзе атмасфера мянялася, прыйшоў час шматлікіх суполак, аб'яднанняў, партый і франтоў. Я з тагачаснымі сябрамі ўвайшоў у літаратурна-грамадскае аб'яднанне «Тутэйшыя», а неўзабаве, у 1990 годзе, атрымаў сяброўскі білет Саюза пісьменнікаў з рук яго старшыні Васіля Зуёнка.

А калі лічыць за пункт адліку першую публікацыю яшчэ студэнтам-другакурснікам у рэспубліканскай прафесійнай прэсе, у штотыднёвіку творчай інтэлігенцыі «Літаратура і Мастацтва» ў 1982 годзе, дык шчырую на ніве айчыннага прыгожага пісьменства больш за тры дзесяцігоддзі. Але і сёння ўпэўнены, што шмат чаго дзеля Беларушчыны робіцца руплівцамі і сапраўднымі патрыётамі не дзякуючы, а насуперак дзяржаве.

Што значыць быць беларусам? У адказ, каб пазбегнуць патэтыкі альбо банальнасцяў, працытую словы паэта Леаніда Дранько-Майсюка, напісаныя пра мяне: «...Этычныя адносіны да людзей, вера ў нацыянальнае характво, шанаванне фамільнай прыгажосці, захапленне ўніверсальнасцю беларускай прасодыі, выбудоўванне свайго жыцця паводле сумленных правілаў».

З «Бярозкі» запрасілі мяне ў адну прыватную выдавецкую ўстанову, потым з суполкай паплечнікаў зарэгістраваў і ачоліў установу з цяжка вымаўляльнай назваю БАДППР (Беларуская асацыяцыя дэтэктыўнага, прыгодніцкага і палітычнага рамана). Але адносіны і абставіны склаліся так, што адкрыў прыватнае выдавецтва «Радыёла-плюс». Можа, гэта і заканамерна, бо цялок, якім я ёсць паводле гараскопа, як вядома, заўсёды шукае свой, хай сабе і невялікі, паплавец.

З кніг не аўтарскіх, а «чужых», на пачэсныя месцы на паліцах выстаўляю аздобленыя Арленам Кашкурэвічам «Руны Перуновы» Рыгора Барадуліна, «Інтымны дзённік» Максіма Багдановіча, але перадусім — своеасаблівую анталогію «Яна і Я. Вершы і песні пра каханне». Склалі мы яе з жонкаю Раісай Шастак і, лічу, у Францыі (далоў залішнюю сціпласць!) атрымалі б за падобнае выданне Ордэн ганаровага легіёна. А ў нас 3,5-тысячны наклад давялося рэалізоўваць сем гадоў, прытым што ў краіне дзясяткі тысяч школ і бібліятэк.

Хочацца прыгадаць і абсалютна ўнікальнае выданне — «ЕўраСлоўнік» Лявона Баршчэўскага, у які ўвайшло каля 100 000 адзінак перакладу на 28 еўрапейскіх мовах. Трэба нагадаць, што пазней ён «рассыпаўся» на дзясятак кароткіх граматык еўрапейскіх моў і на (покуль што) два размоўнікі-даведнікі: беларуска-польскі і беларуска-славацкі.

Яшчэ ў школах дзён перад вакацыямі я чакаў з асаблівым жаданнем, бо настаўнікі надыктоўвалі спісы абавязковай да прачытання літаратуры. Наіўна верылася, што кнігі тыя — самыя лепшыя, самыя цікавыя. Але, здаецца, паспяваў прачытваць нашмат болей, таму, можа, і праз гэта мушу насіць акуляры яшчэ з пятага класа.

Зразумела, аддаваў належнае купанню і рыбалцы на Плісе, гульням у лесапасадцы пры чыгунцы. Але ж вабілі ўрачыстасцю і стэлажы дзіцячай бібліятэкі, між якіх таямніча парыпвалі масніцы. Была ў тым пэўная наканаванасць і святасць. Можа, праз тое, што мясцілася бібліятэка ў былым доме святара Яўгена Зубовіча, які паспеў ахрысціць мяне ў зруйнаванай неўзабаве царкве, ці з-за таго, што зычліва і ветліва сустракала бібліятэкарка Марыя Казіміраўна Палішчук, ці праз тое, што прадчуваў насалоду з томікам на лаве пад шатамі старасвецкіх ліпаў на ўдзірванелым цвінтары.

## Шлях вяртання

Час ад часу кожны з нас думкамі вяртаецца ў сваё дзяцінства. І гэта цалкам натуральна, бо менавіта там вытокі АСОБЫ.

Для мяне яны былі ў кнігах. Не сказаць, каб самых любімых, а, хутчэй, у тых, што ўразілі і запомніліся як цэльныя творы. Назаву «Рабінзона Круза» Даніэля Дэфо (страшэнна шкадаваў небараку, які пражыў на выспе на самоце дваццаць восем гадоў!) і «Падарожжы Гулівера» Джанатана Свіфта. Праўда, куды пазней, ужо студэнтам-філолагам дазнаўся, што былі тое «дарослыя» творы, але скарочаныя і адаптаваныя для дзяцей! Ну і казкі, казкі братоў Грым і Ханса Крысціяна Андэрсена!

Мабыць, і праз беларускія народныя казкі прыйшоў пазней і да беларускага прыгожага пісьменства. А найяскравей запомніліся Лынькоўскі «Міколка-паравоз» (відаць, праз тое, што быў галоўны герой, як і я, сынам чыгуначнікаў), Маўраўскія «Палескія рабінзоны» (верагодна таму, што разам з сябрукамі ладзіў зямлянкі ды буданы, катаўся на лодках і спрабаваў запрудзіць рачулку Жодзінку). Хаця многае і ў тых рэчах не адразу прымалася ці пераасэнсоўвалася пазней: зразумела, рабінзонам трэба было неяк выжываць на выспе ў паводку, але ж забіць вожыка, змайстраваць з яго булаву, а потым засвяціць ёю між вачэй мядзведзю — гэта, як кажуць сённяшнія падлеткі, крута!

Але несумненна, што немалы мой даробак — у дзіцячай літаратуры і ў перакладах.

Часам напачатку бывае не натхненне, а вытворчая неабходнасць, бо ў выдавецкай справе вельмі шчытна пераплятаюцца творчыя і вытворчыя моманты. Да прыкладу, аднаго разу ўкладальніца і перакладчыца кнігі польскай паэзіі дзецям, нібыта той паштальён Печкін, да апошняга не здавала рука-

# Сіўчыкава

піс, а калі рэдактары пабачылі прапанаванае да друку, дык жахнуліся, тым болей што спадарыня катэгарычна адмовілася штосьці правіць і дапрацоўваць.

Давялося ў аўральным парадку рыхтаваць новы рукапіс. Разам з Лявонам Баршчэўскім паднялі і падрэдагавалі пераклзадзенае раней Анатолем Вялюгіным і Сяргеем Дзергаём, а таксама Петрусём Макалём, Уладзімірам Мархелем, Алегам Мінкіным. Сем вершаў са спадчыны Яна Бжэхвы бліскучаператварыў на заказ Рыгор Барадулін, а рэшту давялося перакладаць мне самому і зноў жа Лявону Баршчэўскаму. Гэта быў выпадак, калі, як кажа адзін мой аднагодак-празаік, проста неабходна было ўперціся пузам у стальніцу.

Згадайма, што пасля сталінскага тэрору і ваеннага ліхалецця пісьменніцкі саюз налічваў менш за паўсотню сяброў, і далёка не кожны з іх займаўся перакладам. Нацы спатрэбілася не адно дзесяцігоддзе, каб выгадаваць перакладчыцкія кадры.

Сёння дзякуючы незалежнасці і суверэнітэту маладыя людзі могуць вучыцца не толькі ў ВНУ былога СССР, але і ў далёкіх краінах. Некаторыя з іх валодаюць некалькімі, а ў тым ліку і досыць экзатычнымі мовамі, жывуць за мяжою, непасрэдна кантактуюць з тамтэйшымі літаратарамі. Многія самі сталі бацькамі і хочуць, каб лепшыя ўзоры сусветнай літаратуры прыходзілі да іх дзяцей без мовы-пасярэдніцы, каб гадаваліся іх дзеці са сваім нацыянальным менталітэтам.

І яшчэ. Нам пашчасціла, што на Беларусі працавалі і працуюць некалькі амбасадараў, якія па-сапраўднаму прапагандуюць свае мовы, літаратуры і культуры. Я абсалютна перакананы, што калі б не трыванне і высілкі кіраўніка Пасольства Швецыі Стэфана Эрыксана, дык і сёння не былі б збеларушаныя «Карлсан-з-даху» і «Піпі Доўгаяпанчоха» Астрыд Ліндгрэн.

Разам з так званымі дзіцячымі творамі дзеці сталеюць, становяцца падлеткамі, а потым юнакамі і, нарэшце, дарослымі. А хто найчасцей чытае дзятве першыя кніжкі, як не бабулі з дзядулямі?

Дарослыя пішуць і перакладаюць для дзяцей, а нярэдка выступаюць і цэнзарамі — у арыгінальнай версіі літаратурнай казкі «Чырвоны Каптурок» Шарля Перо ўнучка несла сваёй бабулі не толькі піражкі і масліца, але і бутэлечку чырвонага віна! Тыя ж дарослыя дагэтуль не паруліся выправіць даўнія недарэчнасці ў перакладзе — дапытлівае дзіця мусіць запытацца, як Папялушка здолела таньчыць, чаму яе крышталёвыя (у старафранцузскім тэксце было падобнае па гучанні слова са значэннем «аздобленыя вавёрчыным футрам»!) пантофлікі не пабіліся ці не скрывавілі ёй ногі?!

Дый увогуле трэба было б казаць аб літаратуры для дзяцей і аб літаратуры пра дзяцей, па магчымасці размяжоўваць іх. Амаль што ва ўсіх рэчах Сэлінджэра ёсць героі-дзеці, але ці дзецям адрасаваныя яны?

З пытаннем размежавання і з не менш складанымі за яго давялося сутыкнуцца, калі прыйшоў я пасля ўніверсітэта працаваць у часопіс для дзяцей і падлеткаў «Бярозка», а таксама калі здаваў у выдавецтва дзіцячай літаратуры «Юнацтва» рукапіс сваёй першай кніжкі «Гульня ў тастамант».

Нялёгкія дылемы ставіліся калісь і на міжнароднай канферэнцыі па дзіцячай культуры «Думаеш пра будучыню — дзейнічай сёння!» на шведскай выспе Готланд, дзе пашчасціла пабываць. Дзяліліся дэлегаты і сваім пазітыўным досведам. Да прыкладу, палякі расказалі, што стварылі фундацыю «АВ-СХХІ», адна з ініцыятыў якой «Cala Polska czyta dzieciom» («Уся Польшча чытае дзецям»). Калі спрошчана, дык сутнасць яе — штодня бацькі павінны чытаць услых сваім дзецям добрыя кнігі хаця б дваццаць хвілін. За ганар лічаць чытаць услых у дзіцячых калектывах і аўдыторыях знакамітыя педагогі, акцёры, спартоўцы, палітыкі! Напэўна ж, згадваюць яны сваё дзяцінства і спрабуюць патлумачыць дзецям складанасці свету дарослых.

Устрымаюся ад катэгарычнасці наконт таго, што намерваюся перакладаць творы для дзяцей, а вось выдаваць іх буду напэўна. Адносна нядаўна ў выдавецтве «Радыёла-плюс» выйшлі два паэтычныя зборнікі: «Выпаў грук у грома з рук» Рыгора Барадуліна і «Выйшаў зайчык пагуляць» Артура Вольскага. У абодвух ёсць раздзелы арыгінальных вершаў і перастварэнняў з моваў блізкіх і далёкіх. Гэтаксама як і ў маёй леташняй кніжцы вершаў дзецям «Кошык Велікодны».

### Сямейны шлях

У хату да будучай жонкі ў літаральным сэнсе прывёў мяне дырэктар Траянаўскай СШ Генадзь Журавель. Нізавошта не хацеў ён «адмацоўваць» маладога спецыяліста, бо мастака ў іх не было больш за дзесяць гадоў. Вось і прывёў кватарантам у хату, дзе дачушка, аказалася, давучваецца ў сталічным політэхнічным інстытуце.

Было восем гадоў сустрэч і расставанняў, але потым і сціплае студэнцкае вяселле, бо быў я на перадапошнім курсе філфака. Дужа дапамагалі, асабліва па першым часе, яе бацькі — «Зяць любіць узяць!» Дый першапачатковым капіталам сям'і была двухпакаёўка ва Уручы, якую атрымала Рая на сваёй працы. У шлюбе мы ўжо тры дзясяткі гадоў, а апошні мой пашпарт нават цвердзіць, што браліся мы двойчы: пашпартыстка паставіла памылковую дату рэгістрацыі, а праз гэта мусіла ануляваць адзін штамп, а ніжэй паставіць на старонцы гэткі самы, але з правільнай датаю.

Этымалагічна слова «супругі» азначае «запрэжаныя ў адзін воз», ну дык і цягнем той воз як можам. Тэхнару давялося перакваліфікавацца ў гуманітарыя, зрабіцца на пэўны час выдатным і ўчэпістым выдавецкім рэдактарам, а пры патрэбе яшчэ і бухгалтарам. Чалавек яна вельмі адказны — магла вычытваць тэрміновую карэктуру і глыбокае ночы. Вельмі ўпарты — расчытала апошні, практычна нечытэльны рукапісны верш Рыгора Барадуліна. А ўжо сціплы — часам аж залішне!

Склала яна некалькі кніжак non-fiction, найперш па кулінарыі, а таксама паўдзясятка чытанак, прычым падрыхтаваная ёю «Крынічка» вытрымала ўжо пяць перавыданняў. Ад літаратурна-выдавецкай справы, а часам і ад мяне, адпачывае Рая ў падарожжах, а таксама на лысагорскіх сотках, дзе цешыцца са сваіх гадаванцаў — блізу ста гатункаў кветак.

Старэйшая дачушка Алеся скончыла элітарную сталічную матэматычную школу №19, а потым і Белдзяржуніверсітэт па спецыяльнасці «псіхалогія». Працуе практычна па спецыяльнасці — арганізоўвае міжнародныя навуковыя канферэнцыі ў брытанскай фірме, а значыць, ёсць не меншым «інжынерам чалавечых душ», чым татка-літаратар.

Але і беларускую культуру ведае. Зайшоў быў аднаго разу да яе ў пакой, а Алеся штосьці паспешліва прыхавала. «Ну што ўжо за сакрэты?» — пытаюся. — «Ды вось, аднакласнікі далі пачытаць на адзін толькі вечар», — адказала яна і паказала кніжку Рыгора Барадуліна «Здубавецьця. Рагацё. Прыбабунькі...», што «стаіць» на падмурку народнага гумару. Прынёс я тады са свайго кабінета асобнік з аўтарскай дэдыкацыяй «Шаноўным Уладзіміру й Раісе — на марцовы настрой і кугіклівы вынік! Дзядзька Рыгор. 19.XII.99. Менск» і словамі: «Чытай, дачушка, і нікуды не спяшайся!» і аддаў ёй.

Мае яна і несумненны літаратарскі талент. Калі зайшла гаворка пра ўступленне ў Беларускую асацыяцыю журналістаў, дык акрамя тых публікацый, пра якія я ведаў, прынесла яшчэ і важкі стос матэрыялаў з часопісаў па псіхалогіі дый эканомікі. Аднаго разу, як аказалася, падвёў яе дыктафон, дык яна дома цалкам узнавіла гутарку з кіраўніком адной з найбуйнейшых кампаній сотавай сувязі... па памяці, а той вельмі ўпадабаў публікацыю.

Малодшая дачушка Хрысціна вучылася спачатку ва ўручанскай школе, потым у Парнаце — Рэспубліканскай гімназіі-каледжы мастацтваў, а сталася выпускніцай легендарнага Коласаўскага ліцэя. Мае яна дыплом культуролага Варшаўскага ўніверсітэта, але і чыста мастакоўская адукацыя прыдалася — ёсць хлеб са свайго агенцтва «Маляванне эмоцыямі».

Дачушкі птушкамі разляцеліся па свеце, а вось трохколерная котка Тайга, прынесеная імі ў хату, дваццаць гадоў жыве сабе ў нас дый у вібрысы не дзьме.

**Пры інфармацыйнай падтрымцы культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!»**



Мінск, сядзіба БНФ, агульнанацыянальная дыктоўка, 2008 г.


У сямейным атачэнні: з жонкай і дочкамі


На радзіме Алеся Адамовіча: Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў, Генадзь Бураўкін, Валянцін Тарас, 2009 г.


З Аляксеем Марачкіным і Уладзімірам Арловым


З Рыгорам Барадуліным на офісе выдавецтва

# Свята забытай Канстытуцыі

Аляксей ХАДЫКА

**3 мая 1792 года ў Варшаве, Вільні і Мінску, а таксама па ўсёй яшчэ не цалкам раздранай драпежнымі суседзямі-агрэсарамі (Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй) Рэчы Паспалітай святкуецца гадавіна прыняцця амаль забытай у нас сёння Канстытуцыі.**



Сучаснымі гісторыкамі Канстытуцыя 3 мая 1791 года, прынятая Чатырохгадовым соймам і ініцыяваная апошнім польскім каралём і вялікім літоўскім князем Станіславам Аўгустам Панятоўскім, разглядаецца як прагрэсіўная. Гэта была ўвогуле першая ў Еўропе і другая ў свеце (пасля амерыканскай 1787–1789 гадоў) Канстытуцыя.

У Рэчы Паспалітай яна ўводзіла канстытуцыйную манархію, упершыню паводле прынцыпаў Асветніцтва падзяляла галіны ўлады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую (канцэпцыя французскага асветніка Шарля Мантэск'ё), рэфармавала ў рацыянальным накірунку дзяржаўны лад і дзяржаўны апарат. Ствараўся ўрад (Стража правоў) з караля і міністраў, якім дапамагалі адпаведныя галіновыя міністэрствы — урадавыя камісіі.

### Па волі народа

Лепш за ўсё новы дух Канстытуцыі адлюстроўвае артыкул «V. Урад, або вызначэнне публічных улад», які сцвярджае ўслед за Жан-Жакам Русо: «Усялякая ўлада ў чалавечым грамадстве бярэ свой пачатак у волі народа».

Такім чынам, упершыню ў айчынным заканадаўстве прагучала слова «народ».

Канстытуцыю стварылі і пісалі лепшыя прадстаўнікі патрыятычнага лагеру — побач з каралём — граф Ігнацы Патоцкі, граф Станіслаў Малахоўскі і Гуга Калантай. Падтрымалі — Адам Чартарыйскі, лідар шляхты ВКЛ маршалак канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага князь Казімір Нестар Сапега.

Канстытуцыя сталася апошняй спробай уратавацца. Рэч Паспалітая пазбаўлялася ўласцівых ёй хвароб працэсу кіравання дзяржавай (памятаеце Энгельсава «Польшча трымаецца беспарадкам»?).

Найперш прынцыпу liberum veto, якім падкупленыя замежнымі агентамі шляхцюкі тапілі кожную рацыянальную ініцыятыву, а таксама права на шляхецкія канфедэрацыі, фактычна легальныя бунты нобіляў. Колькасць войска мусіла павялічыцца да 100 тысяч, кіраванне ім перайсці на прафесійную аснову. Правы шляхты ўнармоўваліся, а мяшчан — пашыраліся аж да права куплі маёнкаў і атрымання шляхецкага стану.

Абвяшчаліся тыпова раннебуржуазныя і патрыятычныя рэформы.

Цікава, што, як і амерыканская, наша Канстытуцыя ў 1791 — пачатку 1792 гадоў ратыфікавалася на месяцах. І ў ВКЛ нават больш хутка, чым у Польшчы. За азначаны час у Беларусі — Літве 27 соймікаў шляхты з 33 прысягнулі Канстытуцыі; а ў Польскім каралеўстве — з 42 соймікаў 10 соймікаў прысягнулі, а 27 соймікаў толькі папярэдне ўхвалілі Канстытуцыю. Але ўхвалілі.

**Гэта была першая ў Еўропе і другая ў свеце (пасля амерыканскай) Канстытуцыя. Яна ўводзіла канстытуцыйную манархію і падзел улады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую**

### Краіна дзвюх дзяржаў

Чаму ж у беларускіх рэаліях і сёння гэта — забытае свята, а ў энцыклапедыях, нават сучасных, пра яго кажуць бы скрозь зубы?

Адна з прычын, «агульнаідэалагічная» — дзяржава пачала называцца Рэч Паспалітая Польская. Пішучы, што яна, быццам, зрабілася ўнітарнай замест федэратыўнай, гісторыкі хітруць. Унітарнасць не абвяшчалася Канстытуцыяй 3 мая, па-ранейшаму заставалася краіна дзвюх дзяржаў — Польскага каралеўства і ВКЛ.


USTAWA
RZĄDOWA.
PRAWO UCHWALONE.
Dnia 3. Maia, Roku 1791.
w WARSZAWIE,
w Drukarni Uprzywileiowaney M. GRÖLLA,
Księgarza Nadwornego J. K. Mci.

Больш за тое, непасрэдна сам Чатырохгадовы сейм, які і прыняў Канстытуцыю 3 мая, 20 кастрычніка таго ж 1791 года даў дадатковую інструкцыю з далікатнай нагоды. Яна называлася «Узаемныя заручыны абодвух народаў» і фіксавала надалей адзінства ды непадзельнасць Кароны Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага ў адзінай дзяржаве. Так, безумоўна, органы кіравання (урад і міністэрствы) ствараліся агульныя, пры адпаведнай квоце ад абодвух народаў. Прычына зразумелая — трэба было ратавацца перад агрэсіяй суседзяў, і тут магло дапамагчы толькі эфектыўнае кіраванне. Зараз мы ведаем — не дапамагло. Але не варта забываць: у ВКЛ засталася свая судовая сістэма, свой скарб, сімволіка, сістэма пасадаў, тытулаў і званняў, роўнае прадстаўніцтва ў агульным сойме і яго камісіях. Месцам правядзення соймаў вызначалася Варшава, але соймы маглі адбывацца раз на 3 гады ў Гродне.

Магчыма, па сёння выклікае пэўны пратэст абвяшчэнне ў першым артыкуле Канстытуцыі «каталіцкай рэлігіі абодвух абрадаў» (рымска-каталіцкага і ўніяцкага) пануючай рэлігіяй у Рэчы Паспалітай. Але, заўважым, іншым канфесіям і рэлігіям гарантавалася свабода і талерантнасць. Нават улічваючы, што праваслаўнымі і пратэстантамі ў ВКЛ на той час была абсалютная меншасць жыхароў. Значна болей налічвалася іудзеяў, і яны шчыра віталі абвяшчэнне Канстытуцыі святкаваннямі.

### Першыя стужкі

Менавіта тады ў нас пачалі насіць стужачкі на капелюшах і адзенні — толькі не чырвона-зялёныя, а зялёна-белыя (май і свабода), са словамі «кароль, закон і Айчына». Або «Кароль з народам. Народ з каралём», — такі надпіс адной з першых зрабіла пляменніца караля графіня Марыя Тэрэза Тышкевіч (з роду Панятоўскіх), адразу стварыўшы модны «трэнд».

У 1792 годзе Ян Лапацінскі паставіў у сваім маёнтку Лявонпаль (у Полацкім ваяводстве на тагачаснай мяжы з Расіяй) мемарыяльную калону ў гонар Канстытуцыі. Каб увекавечыць месца, дзе, па яго словах, заканчвалася свабода і пачыналася няволя.

### Канец Канстытуцыі і ВКЛ

Часы былі цяжкія. Скончыліся яны здрадай Таргавіцкай канфедэрацыі, абвешчанай падкупленымі Расіяй шляхцюкамі ў Пецярбурзе 27 красавіка 1792 года. Уварваннем 100-тысячнага расійскага войска, а з другога боку краіны — прускага. Ганебным Гарадзенскім соймам 23 лістапада 1793 года, які спыніў Канстытуцыю 3 мая і прызнаў другі падзел Рэчы Паспалітай. Паразай паўстання 1794 года Тадэвуша Касцюшкі, які змагаўся за аднаўленне Канстытуцыі краіны і за яе вызваленне. І канчатковай пагібеллю ВКЛ у 1795 годзе.

А мы напрыканцы прыгадаем імёны тых, хто падпісваў Канстытуцыю ад ВКЛ, разам з 4 пасламі ад Малапольшчы і такой жа колькасцю ад Вялікапольшчы. Іх таксама было чацвёра: інфлянцкі і курляндскі біскуп граф Юзаф Касакоўскі, троцкі кашталян граф Казімір Канстанцін Плятэр, пасол Жамойцкага староства граф Юзаф Забэла, пасол Мінскага ваяводства Яцак Антоні Путкамер.

Дзень 3 мая ўжо адзначаюць у Польшчы — з 1981 года, і Літве — з 2007 года.

Даўно надышоў час вяртацца ад чужых да сваіх святаў.

Насіць свае стужкі.

Называць вуліцы імёнамі сваіх герояў, хоць бы Казіміра Нестара Сапегі ды Яцака Антонія Путкамера.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 610

Падпісана да друку 08. 05.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.